


# наша Слова



TV-праграма

Штотыднёвік (Выходзіць з сакавіка 1990 г.) | № 31 (295) | 1 жніўня 1996 г. | Кошт -- 1000 рублёў



*З рэдакцыйнай пошты*

**А "МАСЫ" ХТО?**

*Стар.2.*



*Рупліўцы*

**УСТАВАЛА Я РАНЮСЕНЬКА...**

*Стар.5.*


## ПОСТУП ТЫДНЯ



○ **З Днём незалежнасці Рэспублікі Беларусь** грамадзян сваёй краіны павіншаваў Прэзідэнт Аляксандр Лукашэнка. Віншаваў на беларускай мове. Само па сабе ўзнікла пытанне: на якой мове лепей? Адназначна: на беларускай.

○ ***У Менску прайшла "Рэспубліканская палітычная нарада прадстаўнікоў прагрэсіўных сіл"***, *на якой быў створаны аргкамітэт новай арганізацыі, назва якой яшчэ канчаткова не выбрана з двух варыянтаў — "Дэмакратычная Беларусь" або "Дэмакратычны беларускі рух". Сустаршынямі аргкамітэта сталі Станіслаў Шушкевіч, Генадзь Карпенка і Уладзімір Ягораў.*

○ **У сталічным "Доме прэсы" адбылася прэс-канферэнцыя па тэме "Ідэалогія беларускай дзяржаўнасці".** На сустрэчу з журналістамі прыйшлі памочнік Прэзідэнта Алег Слука, а таксама двое з распрацоўшчыкаў канцэпцыі ідэалогіі беларускай дзяржаўнасці Міхаіл Ермаліцкі і Аляксандр Юркевіч. Удзельнікі гутаркі спадзяюцца, што з дапамогай друку яны хочуць пачаць шырокае абмеркаванне вынікаў сваёй працы ў грамадстве. У хуткім часе канцэпцыя ідэалогіі беларускай дзяржаўнасці будзе выдадзена ў выглядзе брашуры.

○ ***Рэдакцыя газеты "Звязда" правяла "прамую лінію" Старшыні Вярхоўнага Савета Сямёна Шарэцкага з чытачамі.*** *Адказваючы на пытанне пра рэферэндум, які адбыўся 14 траўня 1995 года, Сямён Георгіевіч сказаў: "Рэферэндум па сутнасці нічога не змяніў. Абедзве мовы — беларуская і руская — былі ўзаконены. Толькі беларуская ў Канстытуцыі вызначана дзяржаўнай мовай, як гэта і належыць кожнай дзяржаве, а руская — афіцыйна прызнана мовай міжнацыянальных зносін. На маю думку, кожны грамадзянін нашай краіны павінен ведаць абедзве мовы, а яшчэ лепш і трэцюю — англійскую ці якую-небудзь іншую".*

○ **У друку з'явіліся звесткі,** па якіх "зараз з 4808 школ, якія дзейнічаюць на Беларусі, 3029 школ, або 63 працэнты ад агульнай колькасці, беларускамоўныя і 594 школы, або 12,4 працэнта ад агульнай колькасці, рускамоўныя". Гэтыя лічбы, відаць, хутчэй за ўсё не адпавядаюць рэальнай сітуацыі. Толькі ў адным Менску выключна з беларускай мовай навучання не існуе ніводнай школы, на дзвюх мовах дзейнічаюць 172 школы і на расійскай мове дзяцей вучаць у 49 сталічных школах.

○ ***Пачынаючы з 1992 года беларускія агульнаадукацыйныя школы паступова пераходзяць на новыя вучэбныя праграмы.*** *У наступны навучальны год школьны курс нашых дзяцей папоўніцца двума новымі прадметамі: "Сусвет", мэтай якога з'яўляецца раскрыццё навучэнцам адзінай і цэласнай карціны свету, знаёмства іх з фізічнымі, хімічнымі, біялагічнымі, геаграфічнымі і астранамічнымі паняццямі і з'явамі; вучні 9-ых класаў пачнуць вывучаць гісторыю мастацтваў.*

○ **Паводле дадзеных МЗЭС,** гандлёвы абарот Беларусі з Расіяй у студзені-траўні гэтага года склаў 2,6 мільярда долараў і павялічыўся ў параўнанні з адпаведным перыядам 1995 года на 51,5 працэнта. Аднак партнёры з краін СНД і Прыбалтыкі на першае чэрвеня запазычылі прадпрыемствам Беларусі за тавары, работы і паслугі 5,1 трыльёна рублёў.

○ ***У першым паўгоддзі*** *на долю прадпрыемстваў дзяржаўнай формы ўласнасці прыходзілася 70,5 працэнта агульнага аб'ёму вытворчасці прамысловай прадукцыі, недзяржаўнай — 29,5 працэнта.*

# Рамашэўскі асуджаны на 2 гады ўмоўна

З 15 па 17 ліпеня ў Ленінскім райсудзе Менска працягваўся судовы працэс над Андрэем Рамашэўскім, віцэ-прэзідэнтам Партыі аматараў піва.

Яшчэ напярэдадні суда ў розных месцах горада з'явіліся надпісы: "Свабоду Рамашэўскаму", у тым ліку і на будынку суда. А з самага ранку ля суда стаялі сябры Андрэя,– шмат хто з іх меў на куртках і кашулях значкі з аналагічным надпісам. Напэўна, ім і было адрасавана папярэджанне суддзі А.Курыловіча, што іх дзеянні можна кваліфікаваць як непавагу да суда.

Напачатку судовага пасяджэння суддзя не задаволіў хадайніцтва адваката А.Скаруліса і дэпутата П.Знаўца аб змяненні меры стрымання Рамашэўскага.

У сваёй прамове Рамашэўскі толькі часткова прызнаў свой удзел у несанкцыянаванай акцыі і вывешванні сцяга БССР над грамадскім туалетам, але не прызнаў сябе вінаватым у парванні і спаленні сцяга.

Прамовы суддзі А.Курыловіча часам зводзіліся да маналогаў на тэму немаральнасці адносін да сцяга, які для многіх застаецца святыняй.

Моцна раззлаваў суддзю сведка Ул.Вяроўкін, які адмовіўся даваць паказанні суду па-расійску, нават пад пагрозай крымінальнай адказнасці. Суд быў вымушаны запрасіць перакладчыка – настаўніка 51-й менскай школы, які дапамагаў суду паразумецца з Вяроўкіным. Вось як гэта адбывалася:

Суддзя (Вяроўкіну): – Свидетель, доверяете ли вы суду?

(Пераклад): – Ці падабаецца вам суддзя?

(Вяроўкін): – Ён мяне не цікавіць.

Суддзя быў абураны як узроўнем перакладу, так і неразуменнем цяжкасцяў суда, у якога не хапае сродкаў на беларусізацыю.

Большасць апытаных сведкаў пацвердзілі, што ў спаленні сцяга Рамашэўскі не браў удзелу, доказам гэтаму паслужыла і відэастужка супрацоўнікаў МУС.

Пракурора Л.Міронава цікавіла, ці абразіла сведак тое, як Рамашэўскі абышоўся са сцягам, але яны былі абражаны паводзінамі не лідэра ПАП, а супрацоўнікаў АМАПа.

Грамадскі абаронца В.Чарнышоў у сваёй прамове заявіў, што сваімі дзеяннямі Рамашэўскі не абражаў пачуццяў людзей, а наадварот, бараніў закон і дзяржаўную сімволіку, якія існавалі на той момант.

Пракурор казаў, што разумее пачуцці маладых людзей, абражаных выхадкай І.Ціцянкова, але не падзяляе іх метадаў. У дзеяннях Рамашэўскага няма асаблівага цынізму, але ёсць хуліганства. Адвакат настойваў на апраўданні з-за адсутнасці складу злачынства.

Прысуд быў зачытаны 19 ліпеня. Рамашэўскі быў прызнаны вінаватым у злосным хуліганстве і асуджаны на 2 гады ўмоўна з выпрабавальным тэрмінам на 1 год. Суд вырашыў прыцягнуць да крымінальнай адказнасці за дачу непраўдзівых сведчанняў Ул.Вяроўкіна. (Ён заявіў, што браў пасіўны ўдзел у акцыі, хаця відэазапіс зафіксаваў абаротнае). Рамашэўскі са сваім адвакатам збіраюцца абскардзіць прысуд у гарадскім судзе.

**Альгерд НЕВЯРОЎСКІ.**

## Здымак на памяць



У канцы чэрвеня – на пачатку ліпеня 1996 года настаўнікі роднай мовы з суседніх з Беларуссю краін – Латвіі, Польшчы павышалі сваю кваліфікацыю ў Менску. З імі ладзіліся розныя экскурсіі, падарожжы, сустрэчы. Наведалі яны і рэдакцыю часопіса "Роднае слова".

**Фота А.КАЛЯДЫ.**

*Культурнае жыццё*

# Таленты, імем Цёткі асвячоныя

Дзесяткі калектываў і сотні прыхільнікаў роднага слова прынялі ўдзел у творчых конкурсах, праведзеных у Шчучынскім раёне з нагоды 120-годдзя Цёткі (Алаізы Пашкевіч). Вялікую работу давялося выканаць журы, каб падвесці вынікі. Бо любімай землячцы-паэтцы прысвяцілі свае творы мясцовыя паэты і мастакі, кампазітары і журналісты, майстры народнай творчасці і мастацкай самадзейнасці... Школьнікі прысвячалі любімай пісьменніцы свае сачыненні, рэфераты і, канечне, вершы. І ўсё – на роднай мове, мове Цёткі.

І вось названы пераможцы. Іх набралася дзесьці пад пяцьдзесят, калі не болей. Сярод адзначаных – Астрынскі паэтычны народны тэатр "Волат", паэтычны клуб "Антарэс" (таксама з г.п. Астрына), мастацкія калектывы Новага Двара, Хадзілоняў, Жалудка, Каменкі, Бакштаў і многіх іншых паселішчаў, група журналістаў раённай газеты "Дзянніца". У ліку ўзнагароджаных ёсць вучні СШ №1 Гародні.

– Колькі ў нас талентаў! Якія на нашай зямлі таленавітыя людзі! – з гонарам і радасцю ўсклікнула на цырымоніі ўручэння ўзнагарод загадчыца аддзела культуры Шчучынскага райвыканкама Аліна Максімовіч.

**А.ЖАЛКОЎСКІ.**

*Рэха*

# "Не чапайце Канстытуцыю рукамі!"

Зноў у паветры носіцца ініцыяваная "зверху" ідэя яшчэ аднаго рэферэндуму, на гэты раз "па змяненні асобных палажэнняў Канстытуцыі". Якіх палажэнняў, можна толькі здагадвацца. Пэўна ж, не другарадных, а асноватворных, каб падагнаць Асноўны закон Рэспублікі Беларусь пад пэўную ідэалогію.

Мы памятаем, як тры гады назад Вярхоўны Савет XII склікання, на той час эліта нацыі, у напружанай інтэлектуальнай працы, у спрэчках прыходзіў да згоды па кожным артыкуле і нарэшце прыняў новую, дэмакратычную Канстытуцыю Рэспублікі Беларусь. Над кожным яе палажэннем працавалі высокакваліфікаваныя спецыялісты, улічваючы міжнародны вопыт. І вось зусім яшчэ маладую нашу Канстытуцыю хочуць падвергнуць рызыцы разбурэння. Вядома, з разлікам, што большыня людзей прагаласуе так, як "трэба" ініцыятарам. Тут ініцыятары рэферэндуму могуць пралічыцца, бо і масы ўжо не тыя, што два гады назад. Але хітрамудрая ініцыятыва ўсё роўна не можа не хваляваць грамадскасць.

Пры першых падкопах пад Канстытуцыю ўтварыўся Камітэт па яе абароне, у які ўвайшлі аўтарытэтныя людзі – грамадскія дзеячы, навукоўцы, пісьменнікі, мастакі ды іншыя, шырыцца ўсенародны рух у абарону Канстытуцыі. Хочацца верыць, што Вярхоўны Савет РБ знойдзе ў сабе мудрасць і моц, каб не дапусціць ганьбавання нашага Асноўнага закона. У гэтым абнадзейвае глыбока аргументаваны артыкул дэпутата Вярхоўнага Савета Аляксандра Бухвостава, змешчаны ў газеце "Народная Воля" ў № 63 пад загалоўкам, які мы скарысталі,– "Не чапайце Канстытуцыю рукамі!" Аўтар, у прыватнасці, піша:

"Канстытуцыя Рэспублікі Беларусь, прынятая ў 1993 годзе, вызначыла Беларусь як прававую дзяржаву, усталявала прынцып раздзялення ўлады на тры: заканадаўчую, выканаўчую і судовую... У Канстытуцыі, як у вельмі складаным дзяржаўным механізме, збалансаваны інтарэсы трох галін улады, іх самастойнасць у ажыццяўленні сваіх паўнамоцтваў, ступень уплыву адна на адну і адзінства ў рэалізацыі функцыі кіравання дзяржавай. Усе тры галіны ўлады з'яўляюцца суб'ектамі законатворчага працэсу і аднолькава падпарадкаваны закону"...

Свядомую грамадскасць трывожыць пытанне: ці не хочацца некаму канчаткова разбалансаваць нашу дзяржаўную машыну? Гэта небяспечна для ўсяго нашага народа, незалежна ад таго, хоча нехта сацыялізму ці рынкавай эканомікі.

**Уладзімір АНІСКОВІЧ.**

*З рэдакцыйнай пошты*

## А “масы” хто?

Апошнім часам палітыка беларускага ўрада накіравана на шчыльную інтэграцыю з Расіяй. Адбываецца фактычная згуба Беларуссю свайго нейтралітэту і незалежнасці. Усё гэта праходзіць пад апладысменты і з падтрымкай часткі насельніцтва, гэтак званых “народных мас”. А хто гэтыя “масы”? На мой погляд, у першую чаргу гэта людзі проста недасведчаныя ў пытаннях гісторыі нашага краю, затлумленыя прарасійскай імперскай прапагандай, якая і ў нашы дні не паслабляецца, а наадварот — бессаромна набірае абароты, зыходзячы з уладных структураў.

Частка нашага насельніцтва, асабліва людзі старэйшых пакаленняў, не ведае і не хоча ведаць, што беларусы — спадкаемцы ў свой час магутнай еўрапейскай дзяржавы, Вялікага Княства Літоўскага, якая паспяхова адбівала напады татарамангола ў, разам з войскам каралеўства Польскага ў 1410 годзе пад Грунвальдам разграміла крыжакоў агрэсіўнага Тэўтонскага ордэна. А потым, з канца XV стагоддзя пачалася агрэсія на беларускія землі Маскоўскай дзяржавы, якая акрыяла ад мангола-татарскага ярма. Вялікае Княства Літоўскае вымушана было абараняцца. Зацяжныя войны з Масковіяй знясільвалі гаспадарства, прыносілі незлічоныя беды нашым продкам, пакуль нарэшце ў канцы XVIII стагоддзя Расійская імперыя не дамаглася свайго: у выніку змовы трох імперыялістычных драпежнікаў — Расіі, Прусіі і Аўстрыі — федэратыўная дзяржава Рэч Паспалітая была зліквідавана, і беларускія землі адышлі да дэспатычнай Масковіі. Пачалася каланізацыя і русіфікацыя Беларусі, якая доўжылася і праз увесь савецкі перыяд, прынёсшы народу шматлікія духоўныя страты, у тым ліку страту пачуцця нацыянальнай годнасці. Адсюль і вынікі навязанага зманкуртаванаму народу рэферэндуму, частка якога прагаласавала за двухмоўе.

На пачатку абвяшчэння незалежнасці Рэспублікі Беларусь у друку пачалі з'яўляцца артыкулы па гісторыі Беларусі (прыгадаем публікацыі У.Арлова, Г.Сагановіча ды інш.), выходзяць кнігі, у якіх праўдзіва асвятлялася наша мінуўшчына. Але ці да ўсіх нашых суайчыннікаў дайшла новая гістарычная літаратура? Відаць, не. У масе сваёй людзі гісторыю нашай Бацькаўшчыны ведаюць вельмі мала, таму не шануюць мову, нацыянальныя сімвалы, не даражаць незалежнасцю нашай дзяржавы.

Дык што ж рабіць? Застаецца адно — працаваць, несці ў тыя самыя масы гістарычныя веды, тлумачыць, даказваць, што мы, беларусы, маем усё, каб жыць годна і незалежна, — мову, гісторыю, якой можам ганарыцца, самабытную культуру.

**Сяргей САКОВІЧ.**
г. Мазыр.

## Уціск

*“У сваёй прафесійнай дзейнасці я рэдка сустракаюся з такімі ўціскасцямі”,— сказаў у час сустрэчы з карэспандэнтам “Нашага слова” чалавек, які днямі наведаў рэдакцыю. Яго імя — Сяргей Канапацкі, 38 гадоў, юрыст. Вось ягоныя словы:*

“У 1992 годзе два мае сыны пайшлі ў школу. Спрэчкі адносна мовы навучання былі і тады. Нехта з бацькоў быў за расійскую мову. Але большая частка людзей, у тым ліку і мы з жонкай, выказаліся за тое, каб дзеці вучыліся па-беларуску, на мове, якая стала дзяржаўнай. Да гэтага нас заахвочвалі і дырэктар нашай сярэдняй школы № 1 Валянціна Зямскова, таму заяваў у беларускія класы пададзена было шмат.

Становішча пачало мяняцца пасля рэферэндуму. Не ведаю, якім чынам, але з чатырох паралельных беларускіх класаў у школе застаўся толькі адзін. Праўда, мы асабліва не турбаваліся, бо хлопцы вучыліся менавіта ў ім.

У канцы гэтага школьнага года, у траўні, дзеці прыйшлі са школы і сказалі: нам зноў трэба пісаць заяву аб выбары мовы навучання. Мы зноў выбралі беларускую, і такіх, як нашая, заяваў, было пададзена 12 (вучняў у класе было 28). Пасля таго бацькі, якія выступалі супраць беларускай мовы ў гэтым адзіным класе, пачалі, узяўшы аднекуль адрасы, хадзіць па кватэрах такіх, як я, і агітаваць іх перапісаць свае заявы на расійскую мову выкладання.

Перад самым сканчэннем школьнага года дзеці прынеслі са школы атрыманыя на наступны год падручнікі — усе на расійскай мове. Мы здзівіліся: чаму, бо ж іх клас і надалей афіцыйна заставаўся беларускім? Праз некалькі дзён нас паклікалі на бацькоўскі сход, дзе ў чарговы раз паставілі пытанне, на якой мове вучыць дзяцей далей. Пачаліся спрэчкі: адны, спасылаючыся на выпікі рэферэндуму, выступалі за расійскую мову, другія, маючы гэты ж аргумент, — за беларускую, на якой да таго ж дзеці ўжо правучыліся чатыры гады. Я заявіў: мае дзеці і надалей будуць вучыцца па-беларуску, у адказ пачуўшы, што я — нацыяналіст і агітатар БНФ. Мне гэта ўразіла найбольш, бо ні ў якую партыю я не ўваходжу і нават пра існаванне Таварыства беларускай мовы і яго газеты даведаўся толькі некалькі дзён таму.

Прайшло два дні, і дырэкцыя школы сабрала новы бацькоўскі сход. Мы з жонкай зразумелі, што зноў будуць гаварыць пра мову. Таму я патэлефанаваў у Міністэрства адукацыі і спытаў, што рабіць, калі школьная адміністрацыя дзейнічае насуперак жаданням бацькоў. Там адказалі, што абавязак дырэкцыі — забяспечыць навучанне па-беларуску. Гэта я і паўтарыў на сходзе. Але размаўляць давялося не з дырэктарам, а з бацькамі, якім тая давяла: школа не мае ні беларускіх падручнікаў, ні праграм, ні методык, і таму гэтыя людзі павінны пераканаць усіх іншых у тым, што толькі навучанне па-расійску дасць дзецям нармальную адукацыю.

Сход вынікаў не даў, усе засталіся пры сваёй думцы, але пад канец было заяўлена: адсутнасць часткі бацькоў з тых 12-ці азначае іхнюю згоду на пераводы класа ў расійскую мову.

Пасля сходу я сустрэўся з загадчыкам РАНА, які сказаў: дырэктар школы не мае рацыі і беларускі клас застанецца. Я зноў пайшоў да дырэктара школы, якая сказала: клас будзе пераведзены на расійскую мову, а калі мае дзеці хочуць глыбей ведаць беларускую, дык спецыяльна для іх зробяць дадатковыя заняткі — дзве гадзіны ў тыдзень.

Прайшло два тыдні. Я зноў сустрэўся з загадчыкам РАНА. Той сказаў, што Зямскова з ім яшчэ не гаварыла, але хвалявацца няма чаго, клас будзе захаваны.

Я зноў пайшоў у школу да Зямсковай. Спачатку яна папросту са мной размаўляць не хацела, потым сказала, што не ведае, колькі заяваў паступіла на навучанне па-беларуску, а скончыла так: калі мае дзеці хочуць вучыцца па-беларуску, дык хай пераходзяць у іншую школу. У гэтай ім месца не будзе.

Праз два тыдні мы з жонкай зноў наведалі школу, але дырэктар папросту не захацела з намі размаўляць пасля таго, як я спытаў: як можна мяняць мову навучання, не ведаючы, колькі сабрана заяваў у беларускі клас? “У жніўні, калі скончыцца мой адпачынак, разбяромся”, — толькі гэта мы ад яе і пачулі...”

**Распытаў У.ПАНАДА.**

*Культурнае жыццё*



Удалося свята “Купальская кветка-96” у паселішчы Бярэзінскім (Маладзечанскі раён). Тут выступілі лепшыя мясцовыя самадзейныя калектывы. Прыехалі і госці з Расіі, Малдовы, Украіны, з якімі маладзечанцы маюць справу.

**На фотаздымку:** Хлеб-соль удзельнікам свята падае старшыня райвыканкама Пётр Кулеш.

**Фота А.ТАЛОЧКІ, БелТА.**

## “Камсамольцы” СНГ яднаюцца

Як паведаміў на нядаўняй прэс-канферэнцыі сакратар Цэнтральнага Камітэта Беларускага Саюза Моладзі Міхаіл Карпінчык, 1-2 ліпеня ў Джамбуле адбыўся Міжнародны Форум лідэраў маладзёжных арганізацыяў краін Садружнасці пад шматзначнай назвай “Моладзь — за ўзаемаразуменне і інтэграцыю”. Ініцыятарам сходу выступіў Саюз Моладзі Казахстана, а ўдзельнікамі сталі Саюзы ды Саветы моладзі былых саюзных рэспублік, хоць абвешчаны Форум павінен быў сабраць шырокае кола арганізацыяў. Але прыехалі толькі шэсць дэлегацый, астатнія — па тэлефоне пацвердзілі згоду з прынятымі дакументамі.

Сутнасць Форуму досыць яскрава, сам таго не заўважыўшы, ахарактарызаваў М.Карпінчык, які ў размове з журналістамі ўвесь час “блытаўся”, называючы СМБ камсамолам. Афіцыйнай тэмай мерапрыемства стала распрацоўка статута “Садружнасці арганізацый моладзі незалежных дзяржаў”. Мэтай новага ўтварэння названа “добраахвотнае аб'яднанне маладзёжных арганізацыяў, якія падтрымліваюць палітычную, эканамічную і культурную інтэграцыю краін СНД”. У сувязі з гэтым беларуская дэлегацыя (недарэмна ж Менск — сталіца СНД) прапанавала прыняць зварот да ўрадаў Садружнасці, у якім акрэсліла сваю пазіцыю: “Агульнасць гістарычных лёсаў народаў, блізкасць іх тэрыторыяў, роднасць душ і шчыльнае спляценне чалавечых ўзаемасувязяў, эканамічная ўзаемазалежнасць абумовілі імкненне да шчыльнага супрацоўніцтва незалежных дзяржаў. Сённяшняя інтэграцыя — гэта шахматны ход самой гісторыі, адзіны магчымы крок на шляху да выйсця з крызісу, які пераадольваюць нашыя краіны”. Як кажуць, каментар не патрэбны. Хаця М.Карпінчык і паабяцаў, што маладзёжная Садружнасць будзе па-за пратэктаратам палітычных сілаў, нельга разглядаць выпрацаваныя на форуме дакументы інакш, чым палітызаваную акцыю ў падтрымку “аб'яднаўчых” настрояў.

На пытанне — ці не з'явіцца створаная Садружнасць чарговым “мёртванароджаным дзіцем” кшталту шматлікіх маладзёжных камітэтаў і г.д.,— М.Карпінчык патлумачыў, што, каб пазбегнуць абыякавасці моладзі да ідэі інтэграцыі, дзейнасць сваю Садружнасць пачне з побытавых крокаў: аднаўлення традыцыі студэнцкіх атрадаў і ўзняцця пытання аб міжнародных ільготах для студэнтаў па прасторы СНД.

Кіраўніцтва ўжо вядзе перамовы з Адміністрацыяй Прэзідэнта, а сам А.Лукашэнка горача павітаў удзельнікаў Форуму, паабяцаўшы ініцыяваць пытанне аб падтрымцы Садружнасці маладзёжных арганізацыяў на наступнай сустрэчы кіраўнікоў краін СНД.

На Форуме быў вызначаны тэрмін правядзення ўстаноўчай канферэнцыі “Садружнасці” ў кастрычніку 1996 г. у Менску.

*У газетах* *У газетах*

### “Галоўны адрасат нашых праграмаў — жыхары Беларусі...”

**(З інтэрв'ю рэдактара “Рэгіянальнай газеты” Аляксандра Манцэвіча з супрацоўнікам беларускамоўнай праграмы Польскага радыё Марцінам Смялкоўскім)**

**— Пане Марцін, вашы перадачы разлічаны на беларусаў Польшчы, пераважна з Беласточчыны?**

— Якраз і не. Галоўны адрасат нашых праграмаў — жыхары Беларусі. Мы стараемся расказаць як мага поўна і аб'ектыўна пра жыццё Польшчы ды і Беларусі таксама. Скажам, падзеі ў Менску мы асвяцілі па-свойму.Такую інфармацыю, як у нас, вы наўрад ці адшукаеце яшчэ дзе. Знайдзіце нас у эфіры і параўнайце нашыя навіны з навінамі, якія гучаць на хвалях іншых радыёстанцый. Мы, калі праводзіць нейкія паралелі, хочам адыгрываць ролю існаваўшай некалі станцыі “Свабодная Еўропа”. На Польскім радыё створаныя дзеля гэтага 9 іншамоўных службаў: беларуская, англійская, украінская...

**— У вашай рэдакцыі працуюць беларусы?**

— Не толькі. Таксама палякі з Беларусі — студэнты, якія навучаюцца тут і добра валодаюць мовай, ды і карэнныя палякі, як, скажам, я.

**— А адкуль у вас такое веданне беларускай мовы?**

— З часоў вучобы на беларускай філалогіі ў Варшаўскім універсітэце.

***(“Рэгіянальная газета”, № 28, 1996)***

### Як жа называецца той горад, якому 850 гадоў?

“Горад Дзяржынск адзначыў сваё 850-годдзе.

За сваё існаванне горад перажыў тры найменаванні. Адразу з 1146 года ён меў назву Крутагор'е. Потым да 1932 года — Койданава. А зараз Дзяржынск. Дарэчы, чыгуначная станцыя і цяпер мае назву Койданава.

Некаторая даведка юбіляра.

Зараз у Дзяржынску пражывае каля 25 тысяч жыхароў, у асноўным беларусы. Да юбілейнай даты з пачатку года нарадзілася 110 немаўлятак. Прычым, у пераважнай большасці хлапчукі. Самыя старэйшыя ў горадзе — дзве жанчыны, якія з'яўляюцца равеснікамі нашага стагоддзя. На два гады маладзей ад іх “старэйшыя мужчыны”...

***(“Наша жыццё”, N 51, 1996).***

### Што думае пра славянскае адзінства грамадзянін Расіі А.Суздальцаў

**(З адказу на артыкул у газеце “7 дней” ад 29 чэрвеня г.г. “Самазабойцаў не паважаюць нават на нябёсах” А.Лемяшонка)**

“Вы сцвярджаеце пра “п'яную” Расію з прэзідэнтам-п'яніцам, пра нашу расійскую галечу, але як падыходзіць плаціць па рахунках, то пачынаецца нейкае трызненне наконт братэрскіх пачуццяў двух народаў, наконт узаемавыручкі і г.д. Ну дык выручайце, аддайце гэтаму “жабрацкаму дэзарыентаванаму расійскаму народу” тое, што ён жо вам сюды паставіў... Братэрская дапамога і падтрымка — гэта (па-беларуску) рух у адзін бок. І, пэўна, мы, расіяне, не дачакаемся ўзаемнасці ў гэтай справе ніколі. Мы зноў пачуем з Менска, што мы ледзь не родзічы, што для вас любы друз зробім па кошту “Панасоніка”... А цераз адчыненую граніцу ўціхую будзем наладжваць прахадны двор пры дапамозе “сваіх” фірмаў-экспарцёраў.

Мяне як расіяніна страшэнна абражае і прыніжае ўсё тое, што кажуць лідэры БНФ пра маю радзіму, пра мой народ... Але я ім гатовы апошняе аддаць, каб яны мелі права голасу, маглі свабодна ісці па сваіх плошчах. Нас БНФ абражае — мы вытрымаем, мы магутная і моцная нацыя. Але вось што нас сапраўды абражае, гэта калі ў дзяржаўнай улады толькі адзін аргумент —дубінка. А пасля ж падпісання дакументаў у Маскве атрымліваецца, што дубасіла беларускую моладзь на вуліцах Менска Расія! І нам, расійскім выбаршчыкам, з гэтым трэба пагаджацца? Ды ніколі. Хаця б таму, што на сілу заўжды ёсць контрсіла... Не трба нас падстаўляць! Вашы гаспадары, пан Лемяшонак, у гэтым выпадку бароняць не Расію, не беларускі народ, а сябе...

Вашы гаспадары трапілі ў яміну, якую самі сабе выкапалі — Супольнасць. Уніфікацыя заканадаўства ды сінхранізацыя рэформаў — гэта ж палітычная і эканамічная смерць сучаснага беларускага істэблішмэнту... Вось і хочацца: спачатку крэслы — потым грошы, спачатку грошы — потым рэформы. Дудкі, панове! Па дробязі дадуць. А ў цэлым — не. Паны Ліўшыц, Сатараў, Лужкоў не дазволяць. Пан Лебедзь абурыцца ад самога меркавання, каб узяць на баланс яшчэ адну крыклівую, пыхлівую ды бясплодную гаспадарку. Хаця яны — людзі палітычна вельмі вопытныя — на словах і ў асобах выкажуць жаданне і нават захапленне. Могуць пацалавацца. А грошай не дадуць. Нам самім нямала трэба”.

***(“Свабода”, N52, 1996)***

**Прачытаў А.М.**

*Грамадскі рух*

# Народ, маса, натоўп...

Палітолагі, сацыёлагі, дэмагогі-папулісты часта падмяняюць паняцці маса, натоўп паняццем народ, атаесамляючы паводзіны натоўпу з "дэмакратычным волевыяўленнем".

Паняцце "народ" тлумачылася ў розныя часы па-рознаму. На нашу думку, навуковае абгрунтаванне паняццю "народ" даў англійскі філосаф Гобс. У сваіх "Асновах філасофіі" ён пісаў: "Народ ёсць нешта адзінае, якое валодае адзінаю воляю, здольнае на адзіныя дзеянні".Маса — гэта насельніцтва, падданыя дзяржавы. З масы часам спантанна выдзяляецца катэгорыя людзей, якая ўтварае натоўп. Калі народ валодае адзінаю воляй, здольны на адзіныя дзеянні, то натоўп наадварот — штосьці аморфнае, бесструктурнае, пазбаўленае ясна ўсвядомленай мэты. Народам маніпуляваць цяжка. Маніпуляваць масай, натоўпам, праводзіць над ім розныя "сацыяльныя эксперыменты" — куды прасцей.

Дэмагогі-папулісты заўсёды выкарыстоўваюць натоўп у сваіх кар'ерысцкіх мэтах.

Механізм фармавання натоўпу — цыркулярная рэакцыя эмацыянальнага заражэння, а таксама чуткі, якія перадаюцца ў працэсе ўспрымання эмацыянальнага стану ад аднаго індывіда да іншага. Чуткі часам адлюстроўваюць грамадскую думку і настрой, але часта з'яўляюцца крыніцай і хлуслівай, перакручанай інфармацыі, якую распаўсюджваюць дэмагогі спецыяльна. Асноўны фактар узнікнення чутак — гэта незадаволенасць інфармацыяй або яе адсутнасцю. Успомнім забарону выхаду дэмакратычных выданняў пад час падрыхтоўкі да выбараў Прэзідэнта, выбараў у Вярхоўны Савет XIII склікання і правядзення рэферэндуму, калі на экранах тэлевізараў мільгалі твары дэмагогаў і іх халуёў, а радыёэфір запаўняўся славесным карканнем, ствараючы спрыяльны фон славеснага "зачаравання". Тады, напрыклад, у абласцях былой Заходняй Беларусі антынацыянальныя, антыадраджэнскія сілы распаўсюджвалі чуткі сярод беларусаў-каталікоў: калі прыйдуць да ўлады дэмакраты, яны "дэпартуюць" усіх "палякаў" у Польшчу. Праваслаўным беларусам нашэптвалі: не галасуйце за "пазьнякоўцаў", яны далучаць Беларусь да Польшчы.

Небяспеку апірышча на масы і натоўп розных дэмагогаў ужо даўно разумелі перадавыя людзі свайго часу. Так, напрыклад, нямецкі пісьменнік-антыфашыст Томас Ман у сваім рамане "Доктар Фаўстус" пісаў: "Звяртацца да масы як да народа — гэта штурхнуць яе на злоснае цемрашальства. Што толькі ні здзяйснялася на нашых і не на нашых вачах імем народа, імем Бога, імем чалавецтва".

Паняцце "крайняя дэмакратыя" навукова абгрунтаваў Арыстоцель у сваёй "Палітыцы" на аснове вывучэння грамадскага ладу ў старажытнай Грэцыі. Так, характарызуючы дэмакратыю як палітычны лад, ён вызначыў чатыры віды дэмакратычнага накірунку, якія заснаваны на свабодзе і роўнасці. У дэмакратыі вярхоўная ўлада належыць **ЗАКОНУ**, калі закон вышэй за дзяржаву і чалавека. Пяты від дэмакратыі Арыстоцель назваў "крайняй дэмакратыяй", пры якой вярхоўная ўлада належыць народу, а не закону. Крайняя дэмакратыя стварае спрыяльныя ўмовы для ператварэння дэмакратыі ў таталітарна-аўтарытарную дзяржаву, захопу ўлады дэмагогамі. У дэмакратычных дзяржавах, дзе рашучае значэнне мае закон, дэмагогам няма месца. Там, дзе вярхоўная ўлада заснавана не на законах, пануючыя дэмагогі. Дэмагогі, акружыўшы сябе ліслівымі, "шасцёркамі", становяцца магутнымі, яны ўладараць над думкамі масаў. Тады "зверху" асабліва часта чуюцца заявы накшталт: "Мяне абраў народ", "Я выконваю волю народа", "Я не буду выконваць законы Канстытуцыі, якія мне і народу не падыходзяць" і да т.п.

Пад час перайтварэння крайняй дэмакратыі ў аўтарытарна-таталітарны рэжым дэмагогі абапіраюцца на натоўп. Пры дапамозе рыторыкі, скіраванай на ўзбуджэнне такіх афектаў, як надзея, страх, спачуванне, гнеў, яны імкнуцца дастасавацца да стану душы слухачоў і такім чынам сфармаваць у натоўпе "грамадскую думку", якая не заўсёды на карысць нават самому натоўпу... Французскі мараліст Нікола-Себасцьен дэ Шамфор заўважыў: "Бываюць часы, калі няма больш шкоднай думкі, чым грамадская думка". Дэмагогі, ускараскаўшыся на плячах натоўпу на вяршыню ўлады, акружыўшы сябе ліслівымі і "шасцёркамі", у сапраўднасці знішчаюць у краіне дэмакратычныя свабоды, падпарадкоўваюць жыццё сваім інтарэсам і захоўваюць сваю ўладу дзякуючы насіллю, ваенна-паліцэйскаму тэрору і духоўнаму заняволенню насельніцтва, ператвараючы людзей у аўтаматаў, разбураючы генную сістэму фармавання характару да поўнай безасабовасці, поўнай паслухмянасці, што мы назіралі ў нядаўнім мінулым пры фашыстоўскім і бальшавіцкім рэжымах.

Бальшавікі ў цэкоўскім ідэалагічным інкубатары пад пільнай аховай гэбістаў "вывелі" нават новы тып "гістарычнай супольнасці" пад назвай "чалавек савецкі", ці савок. Статку "гомасаветыкусаў" прышчапілі ганебныя рысы робата-аўтамата, лёкая, рабалепа, канфарміста з начынкай страху, скіраваўшы яго тым самым на выраджэнне і самазнішчэнне.

Асаблівa бальшавіцкія ідэолагі шчыравалі, каб цалкам вытравіць са свядомасці народаў нацыянальны код. Яны старанна выкаранялі са свядомасці людзей такія паняцці, як нацыянальны гонар, нацыянальная годнасць, і ліхаманкава культывавалі пустазелле нацыянальнага нігілізму. Пад маскай інтэрнацыяналізму, прапаведуючы злачынную ідэйку "зліцця нацый і іх моваў" (фактычна татальнае абрусенне), культывавалі вялікадзяржаўны шавінізм і духоўны генацыд, ачмураючы "нацыяналаў", што іх "айчына" — "От Москвы до самых до окраин".

На Беларусі вялікадзяржаўнікам чырвонай імперыі шчодра дапамагалі крамлёўскія марыянеткі на рэспубліканскім цэкоўскім Алімпе. Нашпігаваныя ілюзорнымі мроямі, яны імкнуліся першымі загнаць свой "ачышчаны" ад нацыянальных адметнасцяў статак на "зіяючую вяршыню" "камунізму". Ды і зараз эпігоны тых заганяльшчыкаў, уся гэта паўзучая гнюсь, выношваюць злавесную мару давесці да канца бальшавіцкі "эксперымент" менавіта на Беларусі.

Нацыянальная інтэлігенцыя, усе нацыянальна свядомыя беларусы павінны знітавацца ў адзіны маналіт, каб перашкодзіць злыдням канчаткова загнаць "рахманых" беларусаў у "абноўлены" імперскую канюшню. Тут будзе не лішнім нагадаць цытату з "Евангелля" ад Мацвея: "Сцеражыцеся ілжэпрарокаў, якія прыходзяць да вас у авечым адзенні, а ўнутры ёсць ваўкі драпежныя".

Што да "паразы" дэмакратаў пад час апошніх выбараў, што так смакавіта выпускаюць розныя "сацыёлагі", "палітолагі", кажучы, што быццам бы "народ не даверыў дэмакратам уладу", то варта зазначыць: народ у нас толькі нараджаецца. Народ у Гобсавым разуменні? Пакуль пераважала маса людзей са своеасаблівымі поглядамі і накірункамі. Калі перафразіраваць вядомае выслоўе знакамітага грэцкага філосафа Дыягена Сінопскага, то атрымаецца: людзей бачу, народа — не! Толькі частка людзей, якія галасавалі на тым жа рэфэрэндуме супраць, складае ядро народа. Зараз вакол гэтага ядра групуюцца новыя індывіды, якія выходзяць з абалваненай масы.

**Васіль СОКАЛ.**
Зубялевічы, Ляхавіцкі раён.

# ТБМ — прыватны бізнес: тэхналогія супрацоўніцтва

***Фірма "Тэхналогія" была заснавана амаль дзесяць гадоў у час, калі колькасць прыватных фірмаў у тагачаснай БССР не перавышала пяці. На пачатку сваёй дзейнасці фірма займалася будаўніцтвам, інсталяваннем кампутарных праграм ды іншым. Аб тагачасных магчымасцях "Тэхналогіі" сведчыць тое, што сёння сярод яе былых супрацоўнікаў ёсць намеснікі міністраў, банкіры, дэпутаты Вярхоўнага Савета, вядомыя бізнесмены...***

***Чатыры гады таму фірму ўзначаліў Вацлаў Баградановіч — журналіст, колішні супрацоўнік Беларускага тэлеграфнага агенцтва, газет "7 дней" і "Белорусский Меркурий". З тае пары "Тэхналогія" стала займацца пераважна выдавецкай дзейнасцю. А восенню мінулага года галоўным рэдактарам "Тэхналогіі" стаў былы супрацоўнік выдавецтва "Навука і тэхніка", старшыня выдавецкай камісіі ТБМ і сакратар Таварыства Зьміцер Санько.***

***Пад час сустрэчы з карэспандэнтам "Нашага слова" сп.сп. Баграновіч і Санько расказалі яму пра ўчарашні і сённяшні дзень выдавецтва.***

**— З чаго пачалася выдавецкая дзейнасць "Тэхналогіі"?**

**З.С.:** Першымі нашымі кнігамі былі "Беларусь — новая краіна на Усходняй Еўропе", надрукаваная на трох еўрапейскіх мовах, і тэрміналагічныя слоўнічкі: вайсковы, фізіялагічны, хімічны.

**— Выданне іх было камерцыйным прадпрыемствам ці дыктавалася жаданнем зрабіць нешта для беларушчыны?**

**З.С.:** Першая кніга прадавалася як тут, так і за мяжою і мела камерцыйны поспех. Давялося нават рабіць новае яе выданне. Гэтую кнігу куплялі замежныя пасольствы, фірмы, турысты.

**В.Б.:** Потым была серыя "Бібліятэка беларускай дыяспары". Добра ведаючы эміграцыю, я абгрунтавана магу сказаць: яна мае вялікі інтэлектуальны патэнцыял, які на радзіме дагэтуль не выкарыстоўваецца. Цэлы пласт эміграцкай культуры, дагэтуль амаль не вядомы тут, прыцягнуў нашую ўвагу. Таму да гэтага часу мы выдалі каля дзесятка кніжак гэтай серыі, сярод якіх слоўнік Яна Пятроўскага, "Да гісторыі беларускай эміграцыі ў Нямеччыне" А.Вініцкага ды іншыя. Гэтая серыя выданняў прыцягнула да сябе ўвагу беларускай інтэлектуальнай эліты.

Пазней мы друкавалі кнігі, якімі ў сваёй дзейнасці карыстаецца створаная на эміграцыі Беларуская Аўтакефальная Праваслаўная Царква. А цяпер фірма вядзе перамовы з эміграцкім Беларускім інстытутам навукі і мастацтва (Нью-Ёрк) аб выданні тут беларуска-англійскага — англа-беларускага слоўніка, створанага беларусамі ЗША.

**— Ці значнай была цікаўнасць да іх чытачоў?**

**В.Б.** Друкуючы гэтыя кнігі, мы чакалі, што яны прыцягнуць да сябе вялікую ўвагу. Але ў сённяшніх эканамічных умовах фірма мае цяжкасці з рэалізацыяй літаратуры. Манапольныя дзяржаўныя кніжныя гандаль адмаўляецца іх браць. Таму сёння мы стварылі ўласную сістэму распаўсюджвання і продажу друкаванай прадукцыі.

**З.С.:** Да таго ж, сёння няма сэнсу разлічваць на камерцыйны поспех беларускамоўнай літаратуры. Гэта — правіла без выняткаў. Ёсць асобы, якія ёй цікавяцца, але адсутнічае нармальны кніжны рынак. Да таго ж, большасць людзей папросту не мае грошай ні на якія кнігі.

**— Раней галоўным рэдактарам "Тэхналогіі" быў Юрась Залоска, які нават выдаваў там уласныя кнігі. Мінулай восенню гэтую пасаду заняў Зьміцер Санько. Ці ёсць сувязь паміж зменамі ў кіраўніцтве фірмы і зменаю яе выдавецкай палітыкі — тым, што апошнім часам замест кніг беларускіх аўтараў "Тэхналогія" друкуе амерыканскія універсітэцкія падручнікі?**

**В.Б.:** Я лічу, што права быць надрукаванай мае кожная цікавая і карысная кніга, тым больш, што і раней, і цяпер яны друкуюцца па-беларуску.

**З.С.:** Шэраг кніг, якія мы выдаем, друкуюцца на заказ і за грошы беларускага Фонду Сораса. У сённяшняй сітуацыі я лічу такое выйсце для камерцыйнай фірмы аптымальным — рабіць кнігі, якія аплачваюцца.

**— І якія патрэбныя найперш замоўцам?**

**З.С.:** Я мяркую, што гэтыя кнігі найперш патрэбныя нашаму грамадству. Бо гэтыя падручнікі антрапалогіі, эканомікі, філасофіі, паліталогіі, сацыялогіі ды іншыя ўжываюцца ў сусветнай практыцы.

**— Найбольш вы выдаеце падручнікаў эканомікі?**

**З.С.:** Мы выдаём і падручнікі сацыялогіі, філасофіі. Многія з іх не выходзілі дагэтуль ні па-беларуску, ні на якіх іншых мовах краін былога СССР.

Сёння мы з задавальненнем выдавалі б кнігі з беларускай гісторыі альбо літаратуру для дзяцей ды юнацтва, ці навукова-папулярную літаратуру. Але рабіцца гэта можа толькі пры ўмове, што знойдуцца фундатары. Бо сёння разлічваць на тое, што прыбытак ад такіх кніг пакрые выдаткі, не выпадае.

Эканамічная сітуацыя прымушае нас друкаваць літаратуру на заказ, якая, незалежна ад попыту на яе, дасць нам сродкі на існаванне.

**— У сваёй рэкламе "Тэхналогія" паведамляе пра існаванне ўласнай сеткі распаўсюджвання друкаваных выданняў. Раскажыце пра яе больш падрабязна.**

**З.С.:** Узяўшы ў Таварыстве беларускай мовы спіс рэгіянальных суполак арганізацыі, мы звязаліся з прыхільнікамі беларускай мовы, беларускай літаратуры літаральна ва ўсіх кутках краіны. Адгукнулася даволі значная частка людзей, да якіх мы звярнуліся з прапановай аб супрацоўніцтве. І напачатку справы пайшлі даволі шпарка. Але апошнім часам у справе распаўсюджвання намі друку мы назіраем негатыўныя тэндэнцыі. Нашы новыя кнігі разыходзяцца надзвычай павольна, нягледзячы на іх вялікую грамадскую значнасць.

**— "Тэхналогія" распаўсюджвае толькі ўласныя ці і нейкія іншыя кнігі і газеты, напрыклад, выданне ТБМ?**

**З.С.:** Ад самага пачатку размова ішла толькі пра нашую прадукцыю, хаця мы заахвочвалі нашых супрацоўнікаў распаўсюджваць і іншыя выданні. Але газета Таварыства праз гэтую сетку не разыходзіцца.

**— Ці бачыць вашая фірма ў перспектыве далейшае супрацоўніцтва з ТБМ?**

**З.С.:** Думаю, што гэта рэальна, і ў будучым мы станем друкаваць кнігі, патрэбныя Таварыству, якія будуць прапагандаваць нашую мову, выданні па культуры мовы. Гэта падаецца мне вельмі важным.

**Распытаў У.ПАНАДА.**

# "Царкоўнае слова" дзеліць беларусаў

***"На старонках беларускай прэсы паведамлялася, што Гомельскае вытворчае аб'яднанне "Крышталь" вырабіла беларускія ўзнагароды з каштоўных металаў, і сярод іх ордэн Кастуся Каліноўскага.***

***Шырока вядома, што ў час паўстання 1863-1864 гг. К.Каліноўскі натхняў сваіх паплечнікаў на разбурэнне праваслаўных цэркваў, забіццё святчэннікаў і найбольш актыўных праваслаўных клірыкаў і прыхаджан.***

***Цікава, каго беларускі ўрад будзе ўзнагароджваць ордэнам знакамітага ганіцеля праваслаўных на Беларусі?"***

Гэтая нататка пад загалоўкам "Ордэн ганіцеля праваслаўных" была змешчаная ў беларускай праваслаўнай газеце "Царкоўнае слова" (N 6, 1996 г.) выдавецкага аддзела Маскоўскай патрыярхату Рускай Праваслаўнай Царквы.

Увагу нашай рэдакцыі прывабіў пастаўлены пад ёй подпіс — У.Панада, якім карыстаецца адзін з супрацоўнікаў "Нашага слова". Сакратар Таварыства беларускай мовы і рэдактар аддзела публіцыстыкі "Нашага слова" У.Панада спадзяецца на знаёмства з асобаю аўтара гэтай публікацыі ці, прынамсі, на атрыманне сведчанняў рэальнасці яе існавання. А пакуль што змяшчаем яго водгук на допіс свайго двайніка.

Хто на працягу апошніх 25-ці гадоў вядзе партызанскую вайну ў Паўночнай Ірландыі— каталікі супраць вернікаў англіканскай Царквы? Хто ваяваў у былой Югаславіі — мусульмане ды каталікі супраць праваслаўных? Ці былі шматлікія антыкаланіяльныя войны XX стагоддзя ў краінах "трэцяга свету" збройнымі канфліктамі нехрысціянскага свету з хрысціянскім?

Назваць нацыянальна-вызвольную вайну рэлігійным канфліктам азначае перайтварыць не герояў у звычайных бандытаў. Гэткім сродкам заўсёды карысталіся каланізатары ўсіх краін, у тым ліку і расіяне, ператвараўшы праваслаўе з хрысціянскай канфесіі ў нацыянальную рэлігію. Кожны выступ паняволеных расійцамі неправаслаўных народаў трактаваўся як напад на праваслаўе, а не спроба атрымання нацыянальнай незалежнасці.

Чым было паўстанне Каліноўскага — вайной супраць праваслаўных ці супраць Расійскай імперыі, якая акупавала наш край за 69 гадоў да таго? Адказам на гэтае пытанне ў наш час стала рэзалюцыя Генеральнай Асамблеі ААН N 2105 (XX), прынятая 20 снежня 1965 года, якая прызнае права каланіяльных народаў на збройную барацьбу за незалежнасць. А дэкларацыя ААН N 2621 (снежань 1970 г.) гаворыць: "Каланіялізм у кожнай яго форме ёсць міжнародным злачынствам" і пацвярджае права народаў на барацьбу "ўсімі магчымымі сродкамі супраць каланіяльных дзяржаў, якія здушваюць іх імкненне да свабоды і незалежнасці".

Як павінны праваслаўныя беларусы глядзець на асобу Каліноўскага, які ваяваў з ворагамі іх радзімы — іхнімі братамі па веры? Гэтак жа сама, як беларусы-каталікі глядзяць на сваіх аднаверцаў у Італіі, продкі якіх дзве тысячы гадоў таму аддалі на ўкрыжаванне Хрыста...

# Даты і падзеі ў жніўні

1 — 75 гадоў з дня нараджэння Уладзіміра Урбановіча, настаўніка, краязнаўца, аўтара кнігі "Па дарагіх мясцінах" ды "Шляхамі пазтаў і герояў".
— 175 гадоў таму Адам Міцкевіч і Марыля, графіня Путкамер (у дзявоцтве Верашчака) хрысцілі немаўля ў Цырынскай царкве.
— 60 гадоў таму ў Берліне пачаліся XI Алімпійскія гульні.

2 — 655 гадоў таму адбылася бітва войска ВКЛ на чале з ваяводам Юр'ем Вітаўтавічам ды пскавічоў з крыжакамі "на Мекузіцком полі" каля Ізборска.
— 75 гадоў з дня нараджэння Адама Чопчыца, дзеяча самадзейнага мастацтва і педагога.

4 — 320 гадоў з дня нараджэння Даміника Рудніцкага, беларускага і польскага пісьменніка, настаўніка Слуцкай, Гарадзенскай, Мсціслаўскай, Навагарадскай езуіцкіх калегій.

5 — 535 гадоў з дня нараджэння Ягайлавага ўнука Аляксандра, вялікага князя ВКЛ (1492-1506 гг.), караля польскага (1501-1506 гг.)
— 490 гадоў таму войска Вялікага Княства Літоўскага на чале з Міхалам Глінскім у бітве пад Клецкам разграміла войска крымскіх татараў і ўзяло ў палон 3 тысячы іх воеў ды вярнула 40 тысячаў палонніка — жыхароў беларускіх вёсак і мястэчак.
— 100 гадоў з дня нараджэння Леаніда Марковіча, дырыжора і кампазітара.
— 65 гадоў з дня нараджэння Паўла Дзюбайлы, крытыка і літаратуразнаўца.

6 — 70 гадоў з дня нараджэння Леаніда Дробава, мастацтвазнаўца і жывапісца.

7 — 70 гадоў з дня нараджэння Восера Партнога, дзеяча самадзейнага мастацтва, балетмайстра.

**Падрыхтаваў З.С.**

# Расія: новыя Хатыні ў Чачні

Расійскія маці, выходзячы ў пікеты супраць адпраўкі сваіх дзяцей на вайну ў Чачню, на транспарантах, дзе згадваюцца злачынныя "подзвігі" гіганцкай расійскай арміі на Каўказе, пішуць побач з Самашкамі і Першамайскам знішчаныя гітлераўскімі фашыстамі-карнікамі французскае паселішча Арадур і беларускую Хатынь.

Здавалася б, цяпер у Чачні нарэшце спынена бамбаванне паселішчаў гордага няскоранага народа і распачаліся мірныя перамовы. Гэта было адным з галоўных пунктаў праграмы Барыса Ельцына, дзякуючы чаму ён дамогся абрання прэзідэнтам. Народ Расіі ў сваёй пераважнай большасці — за мірнае ўрэгуляванне адносін з Чачнёй. Аляксандр Лебедзь, улавіўшы такія настроі выбаршчыкаў, каб заручыцца іхняй падтрымкай, таму цвёрда і казаў: хочуць чачэнцы жыць самастойна, пацвердзяць гэта ўсенародным рэферэндумам, ён гатовы садзейнічаць ажыццяўленню іх волі. Але не паспелі адгрымець у Маскве фанфары ў гонар перамогі Ельцына на выбарах, як у Чачні пачаліся выбухі бомбаў і ракет. Знішчаюцца паселішчы, забіваюцца не толькі мужчыны, а і жанчыны з дзецьмі. Расійская армія зноў робіць такія злачынствы, што добрыя людзі ва ўсім белым свеце скаланаюцца ад абурэння і агіды. Дайшло да адкрытага нападу на бяззбройных людзей нават у горадзе Грозным. Расстралялі аўтамашыну з двума дзесяткамі мірных жыхароў, у тым ліку і "русскоязычных", як паведамілі інфармацыйныя агенцтвы, затым ацалелых закалолі штых-нажамі і ўзялі сабе "трафеі" — адрэзаныя вушы ахвяр. Даведаўшыся пра гэта новае, проста-такі вар'яцкае злачынства расійскіх вайскоўцаў, сусветна вядомы праваабаронца Сяргей Кавалёў з цяжкім інфарктам апынуўся ў шпіталі — не вытрымала сэрца. Але і з бальнічнага ложка ён паслаў адкрыты ліст прэзідэнту Б.Ельцыну і ягонаму першаму памочніку А.Лебедзю з патрабаваннем спыніць ваенныя злачынствы, і адначасова абвінавацíўшы абодвух у падмане выбаршчыкаў. Пісьмо, як перадаюць інфармацыйныя агенцтвы, адмовілася друкаваць газета "Известия". Тым не меней, тое, што гэта газета апублікавала ў N 131 ад 18.07.96 пад загалоўкам "Спецаперацыя супраць міру ў Чачні", прымушае гаварыць аб нейкай хваравітай жорсткасці расійскіх вайскоўцаў і тых, хто ім аддае загады зверху. Так, блакіруецца бронетэхнікай паселішча Махкеты з нагоды быццам бы таго, што там штаб... прэзідэнта Чачні Яндарбіева. Паселішча амаль цалкам знішчаецца з усіх відаў цяжкай зброі, уключаючы штурмавую авіяцыю і сістэмы залпавага агню "град". Абвяшчаецца, што аперацыя прайшла "бліскуча", штаб знішчаны, а Яндарбіеў і начальнік штаба войскаў чачэнскага супраціўлення Масхадаў загінулі. Журналістаў у паселішча не прапускаюць, але хутка становіцца вядомым, што сярод забітых апалчэнцаў няма, затое загінула шмат жанчын і дзяцей, цалкам разбурана 150 дамоў. А потым, пасля пераможнай рэляцыі — паветраная бомбава-ракетная атака на паселішча Старыя Атагі —на бацькоўскі дом прэзідэнта Чачні Яндарбіева, на ягоную 80-гадовую безабаронную маці... Ракеты трапляюць у выніку "точечного удара" яшчэ ў 6 дамоў. Што гэта, калі не непрыхаваны тэрарыстычны акт? — задаюць пытанне праваабаронцы.

Працягваюцца авіяцыйныя ўдары па паселішчах Шыл, Шалажы, Ведзяно (у каторы раз) і іншых. Шмат паселішчаў блакіравана. Увесь свет дзякуючы такому навязненню "канстытуцыйнага парадку" на тэрыторыі Расійскай Федэрацыі, мабыць, ужо цвёрда запомніў геаграфію і тапаніміку Чачні. Зразумеў і тое, што значыць быць уключаным у такую федэрацыю. Выпускаюць з яе толькі мёртвых.

Калечаць і забіваюць, забіваюць. Усімі спосабамі і не лічачы. Лічаць хіба што сваіх, вайскоўцаў, ды і то дзіўным спосабам. Вось толькі за дні так званага перамір'я з нагоды выбараў, піша карэспандэнт "Известий", "больш за 70 расійскіх маці засталіся без сваіх сыноў". Гэта тых, каму прышлюць "груз-200", цынкавую труну. А колькі змарнелых ад душэўных пакут расійскіх маці другі год з рызыкай для жыцця блукае па чачэнскіх дарогах, прышпіліўшы на грудзях фотакарткі сыноў, прапаўшых "без вестак" у той час, як трупы тых вайсковае начальства, магчыма, даўно распарадзілася прапусціць праз... бетонамяшалку і кінуць у яму каля Карпінскага кургана, які журналісты называюць "Бабіным Ярам чачэнскай вайны".

Тут, відаць, трэба прыгадаць, што першы "Бабін Яр" — гэта стаўшае жудасным сімвалам месца бязлітаснага забойства гітлераўскімі фашыстамі мірных жыхароў на Украіне. Восенню мінулага года праваабарончае таварыства "Амега", журналісты "Новай газеты" і тэлепраграмы "Взгляд" арганізавалі экспедыцыю да Карпінскага кургана на ўскраіне Грознага і доказна высветлілі тое, пра што хадзілі змрочныя чуткі — так, сапраўды аказалася, што гэта месца, куды працяглы час кожную ноч расійскія вайсковыя грузавікі прывозілі гурбы трупаў. Спачатку рэшткі забітых людзей хавалі ў скрынях з-пад снарадаў і стараліся закапаць глыбей. Потым ужо проста скідвалі ў траншэі, іншым разам нават не прысыпаючы зямлёй. У адным з абследаваных участкаў магільніку экспедыцыя выявіла астанкі жанчын і дзяцей, у другім — мужчын 20-23 гадоў. Эксперты прыйшлі да высновы, што то былі расійскія салдаты. "Магільшчыкі зрабілі ўсё, каб гэтыя целы ніколі не былі апазнаныя,— піша карэспандэнт расійскай "Общей газеты",— іх спальвалі, аблівалі сернай кіслатой, прапускалі праз бетонамяшалку".

Гэта пра захаваных на Карпінскім кургане. Сведка, былы сяржант, цяжка паранены ў Чачні, сказаў журналістам пра месца, дзе паспешліва "ліквідоўвалі" звыш 40 забітых салдат толькі ягонага батальёна. Каля дарогі экскаватарам вырылі вялікую яму, хутка ўкінулі туды забітых (некаторыя, лічыць сведка, яшчэ дыхалі), зарылі, а потым некалькі мінут утрамбоўвалі месца танкамі. Усё, ні табе непажаданых дабавак у статыстыку забітых, ні "падарункаў" родным у выглядзе "грузу-200" па ўсёй Расіі і яе федэратыўных "суб'ектах". Зніклі салдацікі, як не было, прапалі без вестак; шукайце, бацькі, плачце і спадзявайцеся.

У іншых месяцах пасля бою трупы сваіх салдат расійцы скідвалі з верталётаў у глыбокія цясніны — на пажыву груганню і сабакам.

Дарэчы, пра сабак. Малодшы сяржант Сяргей К. сведчыў журналісту "Общей газеты", што на ягоных вачах "рэшткамі трупаў кармілі спецназаўскіх аўчарак". Вось і вырашэнне такой хранічнай для расійскай арміі харчовай праблемы...

Знаходзяць тайныя да гэтага захаванні на беразе рэчкі Сунжа каля Грознага. Шмат такіх захаванняў знаходзіцца, паведамляюць журналісты, каля месцаў фільтрапунктаў — гэта трупы замучаных там чачэнцаў. Уся Чачня практычна ператорана расійскай арміяй у фільтрацыйны лагер і палігон па знішчэнні народа, які не захацеў больш варыцца ў федэратыўным "катле". Такое дзеянне называецца міжнародным словам генацыд. Адначасова расійскім юнакам у армейскай форме прывіваюцца навыкі крыважэрных душагубаў без разбору — старых дык старых, жанчын дык жанчын, дзяцей дык дзяцей... Кажуць, распраўы ў Менску нават над пажылымі жанчынамі і падлеткамі ў часе падзей 26 красавіка аказаліся таму асабліва жорсткімі, што "тутэйшых" актыўна "натхнялі" запрошаныя на дапамогу расійскія спецназаўцы, якія прайшлі вывучку на душагубства ў Чачні.

У той жа час расійскія вайскоўцы раўнадушныя і да гібелі аднапалчан. Крыху падтрымліваюць адзін аднаго хіба што землякі. Гэта звычайная рэч для любой імперскай арміі, у якой апынаюцца сагнаныя ў гурт азлобленыя на ўсіх на свеце прадстаўнікі розных плямён і народаў. Вярнуўшыся потым і ў родныя мясціны, многія з іх становяцца крымінальнікамі, душагубамі ці співаюцца.

**Ул.АСІНАВЕЦ.**

# Беларусы сустрэнуцца ў Польшчы?

***Ці не адбудзецца чарговая сустрэча беларусаў свету па-за межамі Беларусі? Тым, хто цікавіцца гэтым пытаннем, прапануем тэкст інтэрв'ю польскаму радыё аднаго з лідэраў Саюза беларусаў Польшчы Юры Каліны.***

— У час маёй пабыўкі ў Злучаных Штатах я меў нагоду сустракацца з прадстаўнікамі беларускай эміграцыі ў Амерыцы. У гутарках з імі была закранута тэма магчымасці арганізацыі гэтага мерапрыемства якраз у межах Польшчы, а не, як раней, у Беларусі. Паколькі пасля апошніх падзеяў, асабліва ўвесну гэтага года, беларуская палітычная эміграцыя вырашыла, што ўсё ж-такі кантакты з цяперашнім недэмакратычным рэжымам Прэзідэнта Лукашэнкі будуць стрыманыя. Таму якраз працяг сустрэчаў беларусаў свету, запачаткаваных чатыры гады таму ў Менску (як ведаем, дзве такія сустрэчы адбыліся з падтрымкай тагачасных беларускіх уладаў), цяпер можа ладзіцца ў Польшчы.

**— Саюз беларусаў Польшчы гатовы правесці такую сустрэчу?**

— Наўрад ці можна гаварыць пра такую ж, як і раней, сустрэчу. Бо дагэтуль яны рабіліся з вялікім шумам, з жадання ўладаў паказаць, якія яны добрыя, як яны падтрымліваюць беларушчыну, спрыяючы гэтым сустрэчам.

Я лічу, што больш плённай і выніковай можа быць сустрэча, на якой будуць абмяркоўвацца нейкія канкрэтныя праблемы. А ў беларусаў іх вельмі шмат.

Іншая рэч тое, што нейкіх асобных праблемаў у беларусаў Польшчы я не бачу, бо тут, калі маеш грошы, усё можна зрабіць і наладзіць. А праблемаў фінансавых у нас, думаю, не будзе.

**— А ці не пакрыўдзяцца з-за такога рашэння беларусы ў Беларусі?**

— Калі гэта будуць прадстаўнікі ўрада, дык гэта, можа, будзе і няблага. А ўсе астатнія, якія захочуць быць прысутнымі на гэтым мерапрыемстве, натуральна, могуць прыехаць.

**— Якія праблемы могуць разглядацца на гэтым з'ездзе?**

— Канчатковага рашэння аб яго правядзенні яшчэ няма. У пачатку верасня старшыня Саюза беларусаў Польшчы Яўген Вапа паедзе на запрашэнне Беларуска-амерыканскага задзіночання ў ЗША на сустрэчу беларусаў Паўночнай Амерыкі. Там ён выступіць з прапановамі адносна арганізацыі гэтага мерапрыемства.

Справы толькі пачынаюцца. Спадзяюся, у наступным годзе мы ўбачым іх пазітыўны вынік.

**— А як беларусы Злучаных Штатаў ставяцца да таго, што адбываецца ў Беларусі?**

— Іх стаўленне адназначна негатыўнае. У пачатку чэрвеня я меў нагоду пабываць на дзвюх дэманстрацыях, ладжаных усімі, незалежна ад палітычнай арыентацыі, беларускімі арганізацыямі ЗША. Першая дэманстрацыя была перад беларускім пасольствам у Вашынгтоне, а праз некалькі гадзін яе ўдзельнікі пераехалі да расійскага пасольства. Паслам былі ўручаны лісты з пратэстамі супраць парушэння правоў чалавека ў Беларусі, супраць знявольвання без віны арыштаваных удзельнікаў мітынгаў у Беларусі, з патрабаваннямі спыніць рэпрэсіі супраць легальна дзеючых арганізацый. З гэтага можна зразумець, як ставяцца эмігранты да падзеяў у Беларусі.

**— Ці маюць эмігранты намер дапамагаць дэмакратычным сілам у рэспубліцы?**

— Яны — грамадзяне краін Амерыкі і Еўропы — інфармуюць пра падзеі на Бацькаўшчыне свае ўрады, сродкі масавай інфармацыі, ладзяць маніфестацыі. Думаю, што ў выпадку неабходнасці, яны будуць дапамагаць людзям, якіх закрануць рэпрэсіі.

*На XXVI Алімпійскіх гульнях*

# Латынінай захацелася стаць... "нават беларускай"

Наглядальнікаў па-ранейшаму здзіўляе імпэт амерыканцаў аддаваць перавагу ўсяму свайму нацыянальнаму. Нават калі гэта парушае нейкія міжнародныя традыцыі. Расійскія журналісты з непрыхаванай зайздрасцю адзначаюць гэтую зацыкленасць янкі на ўсім сваім. "Яна не варожая да пастаронніх,— заўважаюць журналісты,— калі заўгодна, нават прыязная. У тым сэнсе, што шчыра запрашаюць захапляцца Амерыкай". Так, нават гімн на алімпіядзе ў Амерыцы выконваюць адзін, свой, калі па сталай традыцыі трэба тры — алімпійскі, грэцкі (краіны-стваральніцы), а затым ужо і краіны-арганізатара. Па гэткаму ж прынцыпу тут імкнуцца падкрэсліваць нацыянальныя заслугі сваіх ветэранаў. Вось чаму і запаліць агонь Гульняў факелам з Грэцыі было прадастаўлена некалі вялікаму Касіусу Клею, які пазней стаў Мухамедам Алі. Нягледзячы нават на тое, што ў былога непераўзыдзенага чэмпіёна цяпер цяжкая стадыя хваробы Паркінсона і трасуцца рукі. Каб апошняе было не так прыкметна, прыдумалі нават даволі складаны эфект з асвятленнем Алімпійскай чашы. Не забыліся і пра іншых сваіх ветэранаў спорту, якія прынеслі славу Амерыцы. Расійскай жа былой знакамітасці гімнастцы Латынінай не знайшлося ў свайго аргкамітэта нават запрашальнага білета на стадыён — раздалі больш "патрэбным" людзям. "Крыўдна,— сказала Латыніна журналістам,— сядзела ў гасцініцы і думала: як бы са мной сёння цацкаліся, каб была амерыканкай. Ці нават беларускай"...

Апошняе, наконт "беларускасці", прагучала ў сувязі з тым, што ў цырымонію суправаджэння Алімпійскага агню ўключылі і нашага Віталя Шчэрбу. Латыніна, магчыма, згадала тое, што, перасяліўшыся на жыхарства ў ЗША, выдатны гімнаст спачатку казаў, як паведамлялася ў прэсе, што будзе дамагацца амерыканскага грамадзянства. Праз некаторы час, пасля нечаканых цяжкіх выпрабаванняў, якія спасціглі ягоных блізкіх у Амерыцы, Шчэрба ледзьве не ўцягнуўся ў алкагалізм. Але, дзякаваць Богу, засумаваўшы па радзіме, чэмпіён здолеў узяць сябе ў рукі, заявіўшы ўрэшце, што толькі ў Беларусі яму было добра на душы і ўздымала на перамогі спартыўнае натхненне. Вось і ішоў у ганаровай варце як годны прадстаўнік беларускіх алімпійцаў.

**У.А.**

Рупліўцы

*27 ліпеня споўнілася 85 гадоў з дня нараджэння вядомага беларускага мовазнаўцы, заслужанага дзеяча навукі Рэспублікі Беларусь, лаўрэата Дзяржаўнай прэміі СССР, члена-карэспандэнта АН Беларусі, доктара філалагічных навук Юзэфы Фларыянаўны Мацкевіч.*

*Яна, як і тысячы іншых нашых жанчын, можа быць прыкладам самаахвярнага, сапраўды рыцарскага служэння свайму прызванню, сваёй долі. Высакароднасць, сумленнасць, годнасць, мужнае адстойванне сваёй грамадзянскай пазіцыі — нават толькі за гэтыя, уласцівыя яе характару рысы ўсюды і ў любыя эпохі называлі б Юзэфу Фларыянаўну Чалавекам з вялікай літары. Яна з тых нешматлікіх людзей, хто не здольны на прыкры кампраміс, няшчыры ўчынак. А да таго ж, гэтая сціплая жанчына, шчырая працаўніца дасягнула вяршынь навукі, сягнула і каранёў роднага слова.*



# Уставала я ранюсенька...

Яна нарадзілася ў вёсцы Ухлё Бешанковіцкага раёна ў сялянскай сям'і. Калі дзесяцігадовую асірацела, апекаваўся ёю старэйшы брат: забраў да сябе ў Шклоў, дзе яна скончыла сямігодку. Пасля Магілёўскага педагагічнага тэхнікума Юзэфа Фларыянаўна працавала ў школе вёскі Гулькі Клімавіцкага раёна. Аднак вялікая прага да ведаў, імкненне да нязведанага прывялі маладую настаўніцу ў студэнцкую аўдыторыю. Менскі педагагічны інстытут яна закончыла ў 1938 годзе. Прафесар К.І.Гурскі рэкамендаваў Юзэфу Фларыянаўну ў аспірантуру пры Інстытуце мовы і літаратуры Акадэміі навук Беларусі. Яна спецыялізавалася па гісторыі беларускай мовы.

Вайна перапыніла паспяхова пачатую навуковую дзейнасць. Гады нямецка-фашысцкай акупацыі Ю.Мацкевіч з дзвюма маленькімі дочкамі перажыла ў вёсцы Слабада Смалявіцкага раёна. Чым магла, дапамагала партызанам: была сувязной брыгады "Смерць фашызму!" У 1945 годзе Юзэфа Фларыянаўна вярнулася ў Менск і пачала працаваць у аддзеле мовы Інстытута мовы, літаратуры і мастацтва АН Беларусі.

Галоўнай задачай, якая стаяла перад мовазнаўцамі рэспублікі ў пасляваенныя гады, было ўкладанне руска-беларускага слоўніка. Ю.Мацкевіч з энтузіязмам уклю-чылася ў гэтую складаную і адказную справу. Але знаходзіла час і на даследніцкую працу. Праз год яна абараніла кандыдацкую ды-сертацыю "Літоўскі статут 1529 года як помнік беларускай літаратурнай мовы XV — пачатку XVI стагоддзя".

Пайсці ў навуку — трэба знаць: позна легчы, рана ўстаць. Яшчэ і цяпер супрацоўнікі Інстытута мовазнаўства АН Беларусі ўспамінаюць, што Юзэфа Фларыянаўна прыходзіла на працу раней за ўсіх.

Сапраўдным жыццёвым прызваннем Юзэфы Фларыянаўны, галоўным аб'ектам яе інтарэсаў стала беларуская дыялекталогія. У 1946 годзе было вырашана пачаць арганізацыю і падрыхтоўку мовазнаўцаў і выкладчыкаў АН рэспублікі дзеля шырокага даследавання беларускіх гаворак, сама перш — адраджэння і далейшага развіцця лінгвагеаграфіі. Тады ж запланавалі стварыць дыялекталагічны атлас беларускай мовы. Складаць карты ўзялася Юзэфа Флары-янаўна, узялася з энергіяй і ўласцівай ёй са-маадданасцю. Яна наладзіла сувязі з ра-сійскімі і ўкраінскімі калегамі, заахвоціла і навучыла збіраць дыялектныя матэрыялы выкладчыкаў мовы, аспірантаў, а таксама студэнтаў, склала метадычныя дапаможнікі ды сама ездзіла ў экспедыцыі.

Праз некалькі гадоў Юзэфу Фларыянаўну прызначылі кіраўніком сектара дыялекталогіі. Тады выявіліся не толькі яе арганізатарскія здольнасці, але і працавітасць. У сціслы тэрмін быў падрыхтаваны "Дыялекталагічны атлас беларускай мовы" (у дзвюх кнігах; 1963 г.) — капітальная праца, буйнейшае наву-ковае здзяйсненне беларускіх даследнікаў у пасляваенны час. Арганічным працягам і папярэднім абагульненнем атласа ды част-ковай гісторыка-лінгвістычнай інтэрпрэтацыі яго стала калектыўная работа "Лінгвістычная геаграфія і групоўка беларускіх гаворак" у дзвюх кнігах (1968-1969 гг.), падрыхтаваная з непасрэдным удзелам Юзэфы Фларыянаўны.

Ю.Ф.Мацкевіч — сааўтар фундаментальных мовазнаўчых прац: "Нарысы па гісторыі беларускай мовы" (1957 г.), "Курс сучаснай беларускай літаратурнай мовы. Марфалогія" (1957 г.), "Хрэстаматыя па беларускай дыялекталогіі" (1962 г.), "Нарысы па беларускай дыялекталогіі" (1964 г.), "Мікратапанімія Беларусі" (1974 г.). А яе манаграфія "Марфалогія дзеяслова ў беларускай мове" (1959 г.) — першая ў беларускім мовазнаўстве спроба апісання дзеяслова з усёй складанасцю яго катэгорый і формаў на базе дыялектных звестак беларускіх гаворак і мовы мастацкай літаратуры. У кнізе даецца падрабязны аналіз спосабаў утварэння граматычных катэгорый і формаў спражэння, апісваюцца марфалагічныя варыянты асабовых флексій у беларускіх гаворках ды іх адлюстраванне ў мове мастацкай літаратуры, аналізуюцца формы інфінітыва. Гэтае даследаванне стала асновай доктарскай дысертацыі Юзэфы Фларыянаўны, якую яна абараніла ў 1963 годзе.

Ранняе святло ў вакне пакоя, дзе яна працавала, бачылі ўсе яе калегі. Ранняе святло... Яна здолела зрабіць нашмат больш за іншых; яна ўмела заахвоціць да працы іншых; яна сваім прыкладам выхавала іншых рупліўцаў.

У пачатку 60-х гадоў супрацоўнікі сектара, якім кіравала Юзэфа Фларыянаўна, пачалі збіраць беларускія дыялектныя матэрыялы для Агульнаславянскага лінгвістычнага ат-ласа. Тут жа ў 70-я гады была распрацавана спецыяльная праграма стварэння Лексічнага атласа беларускіх народных гаворак. Цяпер гэтая фундаментальная 5-томная праца поўнасцю завершана, падрыхтавана каля 2 тысяч карт з навуковымі каментарамі. Ужо выйшлі з друку тры першыя тамы выдання. Атлас вырашае шматлікія пытанні фарма-вання лексічнай сістэмы беларускай народнай мовы, з'яўляецца грунтоўнай кнігай вывучэння беларуска-іншамоўных кантактаў.

Пазней у сектары дыялекталогіі быў створаны і выйшаў у свет 5-томны "Слоўнік беларускіх гаворак паўночна-заходняй Беларусі і яе пагранічча" (1979-1986 гг.). Галоўным рэдактарам і адным з укладальнікаў яго была Ю.Мацкевіч. Навізна гэтай лексікаграфічнай працы — упершыню пада-дзена лексіка дыялектнай зоны, што вылуча-ецца на падставе этналінгвістычных дадзе-ных і абумоўлена культурна-гістарычнымі прычынамі. У слоўніку сабраны вялікі ма-тэрыял жывой народнай мовы — 38 тысяч слоў. Створана надзейная база для паглыб-ленага даследавання беларуска-летувіскага і беларуска-польскага моўнага кантактавання, падрыхтавана крыніца далейшага вывучэння гісторыі і дыялекталогіі нашай мовы.

Акрамя згаданага, Юзэфа Фларыянаўна асабіста напісала каля 100 навуковых прац, у якіх разгледжаны розныя пытанні дыялекталогіі, моўнага майстэрства пісьмен-нікаў.

Усе гады працы ў інстытуце Юзэфа Фларыянаўна перадавала вопыт, веды сваім шматлікім вучням і калегам. Значны час яна сумяшчала навуковую працу з выкладчыцкай — чытала курс сучаснай беларускай мовы будучым настаўнікам у Менскім педінстытуце.

Юзэфа Фларыянаўна — не кабінетны вучоны. Не было ніводнага года, каб яна не выязджала ў дыялекталагічныя экспедыцыі. Яна абхадзіла і аб'ездзіла ўсю Беларусь, сумежную тэрыторыю Латвіі і Летувы, дзе ёсць беларускія гаворкі, абследавала не адну сотню паселішчаў. А таму і змагла стаць спецыялістам у сваёй галіне навукі. Доктар філалагічных навук Ю.Ф.Мацкевіч першай з супрацоўнікаў Інстытута мовазнаўства ў пасляваенны час была абрана членам-карэспандэнтам АН Беларусі. За працы па беларускай лінгвагеаграфіі Ю.Ф.Мацкевіч разам з іншымі вучонымі мовазнаўцамі была адзначана ў 1971 годзе Дзяржаўнай прэміяй СССР, а праз 7 гадоў ёй прысвоілі ганаровае званне "Заслужаны дзеяч навукі Беларускай ССР". Яна ўзнагароджана ордэнам Дружбы народаў, медалямі і Ганаровай граматай Вярхоўнага Савета.

Апошнім часам Юзэфа Фларыянаўна на заслужаным адпачынку. Але інстытут не забывала, была навуковым кансультантам. Ды гады бяруць сваё.І ўсё ж мы бачым плён яе работы: яшчэ і цяпер выходзяць з друку яе навуковыя працы.

**Мікалай КРЫЎКО.**

# Кола сям'і

## Ваша сядзіба

У другой палове ліпеня сёлета халады з дажджамі часам напаміналі па стану надвор'я глыбокую восень і плады спелі марудней нормы. Але парасткі "выганяла" больш звычайнага, таму не спяшайцеся рыхліць прыствольныя кругі, нават лепей не чапаць пустазелля да восені, што будзе садзейнічаць замаруджванню росту і спяленню ўсіх частак пладовага дрэва, а значыць, і лепшай іхняй падрыхтоўцы да зімы. Калі будуць сухія сонечныя дні, можна пачаць сушку ранніх сартоў яблыкаў і вішань, каб з'эканоміць паліва.

Можна пачынаць закладку новай плантацыі клубніц, што паспрыяе хутчэйшаму ўкараненню расады, а значыць, ураджаю ўжо на будучае лета. На старой плантацыі лісце варта цалкам зрэзаць і закласці ў кампосніцу.

У часе збору ягадных культур пазначце кусты, якія другі раз запар далі слабы ўраджай. Такія лепей выбракаваць.

**У агародзе** рашуча пасынкуйце памідоры. Не пазней 15 жніўня прышчапіце верхавінкі кустоў. Лепей атрымаць спелымі і непашкоджанымі фітафторай няхай нешматлікія плады, чымся займець масу нашпігаванага грыбковымі хваробамі зяленіва.

Не забудзьце сабраць насенне з пазначаных вамі, як лепшыя, кустоў, пазбягаючы фітафторных. Якаснае насенне — гэта будучы добры ўраджай і адпаведна настрой агародніка.

**У кветніку** працягвайце рыхліць і падкормліваць фосфарна-калійнымі сумесямі вашых гадаванцаў. Вы, канешне, пабудавалі сваю клумбу так, каб побач з тымі сартамі, якім прыйшла пара адцвітаць, распускалі пупышкі больш познія па тэрмінах. Клумба павінна зіхацець кветкамі ад ранняй вясны да позняй восені.

Кусты мнагалетнікаў можна ўжо засыпаць на 1-2 см перагноем ці торфам.

Пачынаюць дзяліць і перасаджваць ірысы, півоні і іншыя мнагалетнікі вяснова-летняга цвіцення. Высаджваюць на пастаяннае месца расаду двухлетнікаў (браткі, незабудкі, маргарыткі і інш.). Старыя кусты маргарытак дзеляць і высаджваюць на новым месцы. Пара саджаць нарцысы.

Калі нядаўна не падкошвалі, "пастрыжыце" свой лужок-газон. Крыху падкарміце, змяшаўшы жменю-другую мінералкі з паловай вядра глебы з міжрадкоўя, акуратна разраўняйце ўсё граблямі. Праз пару дзён ваш лужок будзе радаваць вока свежай роўнай зелянінай. Застанецца прайсціся па краях з рыдлёўкай, падразаючы непажаданыя "языкі" за межы газона. З другога боку ваш газончык, канешне ж, прымыкае да клумбы, абмежаванай камянямі — не бетоннай сценкай!

**Д.БАРАДЗЕД.**

## Як на дзіцячы розум...

### 2,5 гады

Мама: "Ой, Палінка, які ў цябе мазоль на пятцы!"

Палінка з трагічным выглядам: "Што рабіць будзем?! Можа латаць?"

### 3 гады

Палінка:

— Я за бацьку замуж пайду, як вырасту.

— Дачушкі не выходзяць за бацькоў.

— І не кажы мне так, мама, усё роўна пайду, хоць і стары будзе!

— А я куды падзенуся?

— А ты на могілкі.

— За прынца выдадзім цябе!

— Не, не, не! Ты памрэш, а бацька будзе стары, дык куды ж яго ўпёрці?!

* * *

— Навошта ты свежую газету на падлогу кінула? Баба дасць і табе, і мне!

Палінка:

— Баба мне не трэсне па задніцы, бо я ж цягнік і яна не будзе біць па гэтай іржавасці, бо гідзіцца будзе.

### 4 гады

Палінка ўбачыла рэкламу эратычнага фільма:

— Мама, я па тэлевізары бачыла грэшніц, блудніц голых. Але тыя людзі тэлевізійныя — добрыя. Яны хацелі, каб гэтых блудніц сабакі паганялі. Яны так і сказалі: "Специально для КАБЕЛЬного телевидения"!

— Чаму сабакі? Якія сабакі?

— Дык кабелі — гэта ж і ёсць сабакі!

**Выбрала Я.КРАЎЧУК.**

*Здароўе*

*Тацяна Фаміна,*
*кандыдат медыцынскіх навук*

## Металы жыцця

### Магнэз

Пра значэнне магнэзу, ягоную ролю і вынікі недахопу гэтага хімічнага элемента ў арганізме чалавека пачалі задумвацца адначасова з пазнаннем таямніцаў фотасінтэзу. А цікавасць да магнэзу (Mg) не была выпадковай. Навукоўцы выявілі, што хларафіл, рэчыва, якое фарбуе раслінны свет у зялёны колер, паводле сваёй структуры вельмі падобны на гемаглабін, які, як вядома, з'яўляецца асноўным рэчывам, што абумоўлівае колер крыві і пераносіць кісларод. Адрозненне: у гемаглабіне — жалеза, а ў хларафіле — магнэз.

Расліны праз недахоп магнэзу растуць павольней, а лісце страчвае зеляніну і заўчасна жаўцее. Але калі дабавіць у глебу магнэз, то расліны вяртаюцца да нормы.

У чалавека бывае падобны стан. Навукоўцы ўжо дакладна высветлілі, што магнэз, а дакладней ён (іон) магнэзу, актыўна ўдзельнічае амаль ва ўсіх абменных працэсах чалавечага арганізма. Без ёна магнэзу запавальняліся б або нават былі б немагчымыя антыстрэсавыя рэакцыі арганізма. Чалавек не мог бы справіцца з атручваннем, алергіяй, з анафілаксіяй (хвароблівы стан вострай рэакцыі арганізма на нейкае лякарства), з працэсамі запалення, з уздзеяннем шкоднага выпраменьвання. Ён магнэзу спрыяе рэгуляцыі энергетыкі арганізма, актывізуе фагацытоз (знішчэнне вялікімі лейкацытамі мікробаў) і спрыяе выпрацоўцы антыцел, якія, як вядома, знішчаюць чужародны бялок. Таму, прыкладам, на першым кангрэсе, прысвечаным захворванням, якія абумоўленыя дэфіцытам магнэзу, трывожна прагучалі словы прафесара Дурлаха: "Знаменнем сучаснага цывілізаванага свету з'яўляецца пастаянна спадаючы ўзровень ёна магнэзу".

### Склероз сэрца і магнэз

Навукоўцы ведаюць, што людзям афрыканскага племя банту склероз невядомы, бо яны маюць высокі ўзровень магнэзу ў крыві. У еўрапейцаў жа гэты паказчык не толькі значна ніжэйшы, але ўвесь час паніжаецца. І прычынай таму наша "цывілізаванае" харчаванне. Апроч гэтага, недахопу магнэзу спрыяюць алкагалізм, дыябет, хваробы шчытападобнай залозы, а таксама мачагонныя і заспакаяльныя сродкі.

Важную ролю ў рэгуляванні колькасці халестэрыну ў крыві выконвае амінакіслата лецыцін, якая ў арганізме чалавека сінтэзуецца з дапамогай энзіма, што ўтрымлівае вітамін $B_6$. Але гэты энзім можа дзейнічаць толькі тады, калі хапае магнэзу.

Каб панізіць узровень халестэролу, дастаткова забяспечыць арганізм магнэзам, вітамінам $B_6$, а таксама амінакіслотамі халінам і іназітолам, якія ўтрымліваюцца ў пахрошчанай пшаніцы, дражджах, печані, вотруб'і, а таксама ў іншых харчовых прадуктах, багатых на вітаміны групы B. Але калі нават гэтых вітамінаў будзе дастаткова, праз недахоп магнэзу не ўтворыцца лецыцін, і ўзровень халестэролу зноў узнімецца.

Першым сімптомам у жывёлаў, якім давалі харч з недастатковай колькасцю магнэзу, была арытмія сэрца. Менавіта такую арытмію наглядалі таксама ў людзей, якія жылі ў мясцовасцях з "мяккай" вадой. Калі свет даведаўся, што цвёрдая, даламітавая вада, у якой утрымліваецца кальц і магнэз, добра ўплывае на працу сэрца, пачалі вырашаць, што рабіць там, дзе вада мяккая. Прыкладам, на Фларыдзе, дзе карыстаюцца пераважна дажджавой вадой, у яе пачалі дабаўляць спецыяльныя дадаткі. Праз чатыры гады смяротнасць ад хваробаў сэрца знізілася ўдвая. Прафесар А.Шафер, які займаўся прафілактыкай на Фларыдзе, а таксама правёў шэраг досведаў у шэрагу краінаў свету, сцвярджае: "Мяккая вада — гэта сардэчныя прыступы і інфаркты".

*(Працяг будзе.)*

***Скарб***

# І згадваеш маці...

Марнае пытанне: ці ёсць на свеце мова, лепшая — больш ласкавая і мілая, чым матчына? Вядома, ёсць вартасці і ў іншых моў. Але ж пяшчотней, па-свойску цяплей, чым родная, беларуская гаворка, канешне, няма.

Калі чуеш родную мову, дык нярэдка згадваеш маці. Часам бачыш яе пасярод тае хаты, у якой ты з'явіўся на свет і правёў першыя гады, а цяпер там, можа, ужо не будзеш ніколі. Прыпамінаеш маці з яе клапатлівай увагай да цябе і ўсяго твайго, з яе пастаяннай дабрынёй. Усплываюць у памяці і дзяцінства, юнацтва, якія назаўсёды засталіся для цябе значнымі, добрымі і пажаданымі, як і маці. І дзе б потым ні жыў, у якім асяродку ні круціўся, а кроўныя словы з басаногага маленства ўжо не могуць пакінуць цябе. Калі ж у каго яны запамятаваюцца ці выціскаюцца іншымі, дык гэта, мяркую, тое самае, што забываецца ў яго маці, вылятае з галавы, як яна ўглядалася праз акенца, чакаючы дахаты стомленага сына, як была заўсёды рада пагаманіць з табою.

Прыгадаеш і, як пасля шчырай малітвы, уяўляецца тое, што колісь было вакол цябе ў самыя лепшыя гады твайго жыцця, як бы адчуваеш сябе ў беларускім асяроддзі. Калі, бывала, завітаеш у якуюнебудзь незнаёмую вёску, дык адразу адчуеш, як тут усё "гаворыць" на "нашай" мове. Чуеш, бы музыку, што вось перад табою ніякі не авін, не сарай, а хлеў, не ізба, а хата ці дом, не крыльцо, а ганак... Чужыя словы, я гэта добра падмеціў, тут зусім не "гучаць". Ніякі "рebёнок" не заменіць немаўлятку, таксама як пэрфум або аромат не замесцяць водар. Водар сенажаці. Водар мядовы! Сам прадмет, рэч як бы цураюцца іншаземных слоў. Душа тут адгукваецца на кожнае стрэчнае і "вызваньвае" ўсё іменна так, як гаварыў колісь ты, жывучы на гэтым улонні прыроды. А калі ж інакш, дык усё гэта здаецца пародыяй і зусім іншае ўзгадваецца: не маці ля печы, над калыскай ці на дрывотніку, не ўласнае дзяцінства і не любыя да трымцення сэрца краявіды, а нешта чужое, халоднае і абыякавае да цябе.

За сваё жыццё я так і не прызвычаіўся гаварыць па-іншаму. Толькі ў вялікім гурце, пры "чужых" гавару на "языке", міжволі, неўпрыкмет для сябе блытаючы яго з сваёй гаворкай. І нярэдка дзіўлюся з тых, хто лёгка шпарыць інакш, але ніколькі не зайздрошчу. І ў сям'і гавару ці ў самоце думаю — на той мове, што жыве ва мне здаўна, якую ўзгадавала і зберагла для мяне маці.

Так складвалася, што мая маці, Дзямідовіч Аляксандра Мікітаўна, жыла ў розных кутках Беларусі: на Уздзеншчыне нарадзілася, у Быхаўскім, Клімавіцкім, Баранавіцкім, Нясвіжскім ды іншых раёнах, дзе вучылася і потым працавала, куды ездзіла следам за мужам-службоўцам. Цяпер вось жыве ў Докшыцкім. Мабыць, таму яе слоўнік, прыдбаны за шмат пераездаў, на мой погляд, вельмі багаты. Многія словы, праўда, ужо рэдка сустракаюцца ў гаворцы людзей, але маці часам вельмі дарэчы, трапна іх скарыстоўвае. Яны як бы свежы струменьчык крынічнай цуд-вады...

Я даўно хацеў збіраць такія слоўцы (што і ўсім раю), ды наважыўся на гэта гады два таму. З таго часу амаль штодня па памяці занатоўваю слоўца-другое, якія рэдка сустракаюцца нават у даведніках. І, мусіць, гэтаму не будзе канца. Сабралася іх ужо каля пяцісот. Некаторыя з іх падамо ў наступным нумары.

**Вячаслаў МІЛКОЎСКІ,**
**сябра рады каардынатараў руху**
**"Беларускі інтэлектуальны рэсурс".**

***Мікалай Крыўко — беларушчына.***
***Алена Шчука — англійшчына.***

## Слоўнік сінонімаў

1. **ПОТЫМ** (не зараз, а праз некаторы час) — *Ідзіце, дзядзька Ахрэм, ідзіце... Я потым прыйду...* (Зарэцкі), **ПАСЛЯ І ПОСЛЕ** *То нясі гарэлку, а грошы пасля, як вала знойдзем* (Якімовіч). **ПАЗНЕЙ** (трохі счакаўшы, праз параўнальна невялікі прамежак часу) *Жаніховы бацькі спярша думалі, што цягнік сёння спазніўся і сын прыедзе пазней* (Новікаў). *Немцы за людзьмі паказваліся не адразу — пазней* (Пташнікаў), **У ДАЛЕЙШЫМ** (праз значны прамежак часу) *Аднак, не хочучы быць несумленным ні перад сабой, ні перад ёю, у далейшым ён стараўся сустракацца з Аняй радзей* (Васілевіч).

2. **ПОТЫМ** (ужываецца для абазначэння часавай паслядоўнасці дзеяння) *Спачатку Міколка з бацькам з таптухай цялёпкаліся, а потым узяліся рукамі плотак лавіць паміж карчоў* (Лынькоў), **ЗАТЫМ** *Потым ізноў цемра і боль. А затым? Затым ізноў будуць боты. І пытанні* (Брыль), **ПАСЛЯ І ПОСЛЕ** *Перш за ўсё ішла справа пра поплаў... Пасля пайшла гаворка пра касьбу* (Чорны). *І мёд зімой табе не шкодзе — Усё кошніся; а цёплым днём На бераг бы глянеш разводдзем, Дый после — зноў сваім слядком* (Купала), **ПАСЛЯ ГЭТАГА** (непасрэдна за якім-н. іншым дзеяннем) *Грымнулі стрэлы, і Кандрат Бус зваліўся ў снег ды так і застаўся там ляжаць, як загнаны і застрэлены звер. Пасля гэтага салдаты зноў пусціліся бегчы ратаваць конніка* (Колас), **СЛЕДАМ** *Пачало даспяваць жыта, следам за ім пажаўцелі аўсы* (Дуброўскі), **ДАЛЕЙ** (указвае на ўзаемасувязь дзеянняў, што ідуць адно за другім). *[Суседзі] разумелі, што ўся дружба скончыцца, як толькі Сімон паедзе адгэтуль, і далей нічога добрага чакаць не выпадае* (Самуйлёнак), **ТАДЫ** *Спачатку хараша, па-гаспадарску спусцілі саламяную страху, знялі верх... разабралі печ, а тады — узялі голы зруб* (Брыль), **ТАМ** *Дзед кажа: абы жыў астаўся, а там — бог бацька* (Якімовіч). *[Людзі] найбольш думалі пра дзённы свой заработак, а там хай сабе... хоць спыняць зусім гэтую работу* (Чорны).

3. **ПОТЫМ** (ужываецца для абазначэння паслядоўнага размяшчэння ў прасторы прадметаў, асоб) *Спачатку ішоў хмызняк, а потым пачаўся лес,* **ЗАТЫМ** *Направа ад дарогі рос авёс, Налева — памідоры спелі. Затым дарога павярнула ўбок, Да новага мастка, праз кукурузу* (Корбан), **ДАЛЕЙ** *А вось дзве ёлачкісястрыцы Стаяць паміж старых ялін,— Як залатыя завушніцы, Звісаюць шышкі з іх галін. Далей сям'я алешын рослых* (Смагаровіч). *Далей, як і ва ўсіх пісьмах, ішлі паклоны — кожнаму пасобку* (Якімовіч) **ТАДЫ** разм. *Спачатку будзе лес, а тады рака.*

**ПОЎДЗЕНЬ** (сярэдзіна дня) *У самы поўдзень хлопцы мінулі апошні ўзгорак на сваім шляху і ўбачылі горад* (Якімовіч). *Туравец вярнуўся ў штаб брыгады пасля паўдня* (Мележ), **ПАЎДНЯ** *Ужо хутка паўдня, а зямля яшчэ зусім не нагрэлася* (Ваданосаў). *Было паўдня. Хутка з поля прыйшла маці Андрэя* (Дуброўскі), **ПОЛУДЗЕНЬ** *[Стэпа:] — Ну, то ўставай, ды будзем абедаць; ужо, бачыш, за полудзень мінула* (Гартны), **ПАЛУДЗЕНЬ** *Вецер зайшоў з Вострава... Сыры і густы, ён падзьмуў на палудні з-за ракі на Выганчык, гонячы мокрыя, калючыя, наабіваныя зялёныя сасновыя іголкі* (Пташнікаў). *У цень ідзе палудзень, Мурзаты, малады* (Голуб), **АБЕД** (сярэдзіна дня, калі звычайна абедаюць) [Маці:] — *А божа ж мой, сынок, дзе ты прападаў? Казаў прайдуся трошкі, а ўжо ці цеперся па абедзе!* (Гіль). *Пайшоў Рыгор у абед да Сакола, але таго дома не было* (Лецка).

**Поўдзень**. Англійскіх сінонімаў у дадзеным выпадку толькі два: **noon** і **midday**. Як і бел. словы **поўдзень, полудзень**, англ. **midday** мае матываваю, хаця і крышку іншую: **mid-** "сярэдзіна", **day** — "дзень".

# ПЕРАКЛАДАЦЬ — НЕ ПЕРАКРАДАЦЬ

Наш калега з раённай газеты "Пастаўскі край" Сяргей Дзеравянка цікавіцца мастацкім перакладам. Ён даслаў на нашу рэдакцыю сваё практыкаванне — арыгінал і пераклад на беларускую мову з Гогалеўскага твора, які прыводзіўся ў "Нашым слове" ў матэрыяле "Выдаткі перакладу" ( № 7, 1996 г.).

"...Она сплетничала и ела вареные бураки по утрам и отлично хорошо ругалась — и при всех этих разнообразных занятиях лицо её ни на минуту не изменяло своего выражения, что обыкновенно могут показывать одни только женщины".

"...Яна разводзіла плёткі і заўсёды раніцай ела гатаваныя буракі і адменна добра лаялася — і за ўсімі гэтымі разнастайнымі заняткамі выраз яе твару не змяняўся ні на хвіліну, што большай часткай уласціва адным толькі жанчынам".

Запрашаем чытачоў да невялікай вiктарыны:

1. Якія лексічныя і стылявыя недакладнасці вы адзначылі б у перакладзе?
2. Агульная ацэнка перакладу (пасрэдна, добра, выдатна).

Прапануйце свой варыянт перакладу гэтага ўрыўка.

***Да 400-годдзя выдання "Лексіса"***

***Алена ЯСКЕВІЧ,***
*кандыдат філалагічных навук*

# Падмурак нацыянальнай лексікаграфіі

Доўгі час у нашым айчынным мовазнаўстве "Лексіс" Л.Зізанія недаацэньваўся. (І сёння мы не адвялі яму належнае месца.)

Перш навуковую каштоўнасць "Лексіса" ацаніў чэшскі славіст І.Добраўскі. У перапісцы з Я.Капітарам і ў яго "Граматыцы" мы знаходзім некалькі згадак пра гэты беларускі помнік. Яго славянскія вучоныя бралі за ўзор у сваёй лексікаграфічнай працы.

Некаторыя даследнікі знаходзяць падабенства "Лексіса" Зізанія і Фёдараўскага "Лексіса з талкаваннем славенскіх моў проста". Сведчанне — апошні цалкам увайшоў у слоўнік Л.Зізанія. Бясспрэчна, Л.Зізаніем быў выкарыстаны вопыт "Лексіса... проста", бо без папярэдніх распрацовак яму цяжка было ўзняцца на тую лексікаграфічную вышыню, якой ён дасягнуў у сваім "Лексісе".

Так ці інакш сувязь "Лексіса" Л.Зізанія з "Лексісам... проста" відавочная. Падабенства адчуваецца нават у адценнях тлумачэння слоў. Напрыклад, тут і там слова "лик" падаецца ў значэнні не "лічбы", а як "танец" (ликование), "лесть" — як "здрада". Гэтага ў іншых лексікаграфічных помніках мы не назіраем.

Пры сённяшнім навуковым прачытанні "Лексіса" Л.Зізанія нам хацелася б звярнуць увагу на адну яго істотную асаблівасць, недастаткова, на нашу думку, вытлумачаную ў папярэдніх даследаваннях. Мэту, якую ставіў перад сабой аўтар, вытлумачвае сама назва слоўніка: *"ЛЕКСІС. Сиречь речения вькратце сьбранны. Из словенского язька, на просты Рускій Діялекть истолкованы. Л.Z."*

У "Лексісе" Л.Зізаній не проста дае тлумачэнне незразумелых слоў, суправаджаючы адпаведнымі граматычнымі паметамі з кніг "свяшчэннага пісання" (гэтым абмяжоўвалася лексікаграфія ў сваім тагачасным зародкавым стане). Ён упершыню ставіць перад сабой нацыянальна ўсвядомленую задачу — праз слоўнік, а менавіта праз яго перакладную частку, дапамагчы вучням брацкіх школ авалодаць нацыянальнай літаратурнай мовай. Л.Зізаній як педагог зразумеў, што напачатку навучання неабходна невялічкая кніжка. Такому прызначэнню па тым часе, разам з "Азбукай" і "Граматыкай", і адпавядаў слоўнік, з якіх вучні б маглі засвоіць аснову народнай гаворкі і праз роднае слова здабыць веды па навакольны свет. У гэтым сэнсе "Лексіс" Л.Зізанія не столькі перакладае з царкоўнаславянскай, праз авалоданне якой праходзіла асвета ў той час, колькі вучыць роднай мове.

Навучанне на роднай мове і ўкараненне яе ў практыку моўных зносін было для Л.Зізанія глыбока ўсвядомленай задачай. Гэтаму красамоўна сведчыць і тое, што вучоны не саромеецца даць волю "мясцоваму" простаму слову і ў сваіх навуковых працах. У яго "Азбуцы" і "Граматыцы" старабеларуская лексіка і адпаведна старабеларускія граматычныя формы арганічна адчуваюць сябе ў сістэме старaславянскай мовы, на якой тады ствараліся навуковыя працы.

І трэба сказаць, што выдадзеныя ў Вільні мовазнаўчыя працы Л.Зізанія (а ён паходзіў з Палесся), выяўляюць у асобе іх аўтара рэдкага знаўцы тагачаснай беларускай мовы (дзяржаўнай мовы ВКЛ), яе сапраўднага, як сёння мы кажам, носьбіта. Яго зайздросны талент лексікографа выявіўся ва ўдалым адборы найбольш ужывальнага слова старабеларускай мовы.

Слоўнік укладаўся з навуковым падыходам, спалучаліся алфавітнае і гнездавое размяшчэнне слоў, што сведчыць пра дасканалае валоданне аўтарам лексікаграфічнымі метадыкамі таго часу. Вучонымі перш за ўсё адзначаецца дасканаласць сістэмы тлумачэння ў "Лексісе": побач з сінанімічнымі *(ветія — ритор, беда — упадок, небеспечность)*, апасродкаванымі *(воінствую — жолнерством бавлюся, миротворение — то света створение)*, шырока ўжываюцца энцыклапедычныя прыёмы сэнсавай і нават этымалагічнай інтэрпрэтацыі лексем *(Зеление есть дерево, которое лете и зиме зелено, подобно листье мает зелью, на котором чернице ягоды растут; онагр — дикі осел, лесной)*.

Беларуская мова ў слоўніку Зізанія — гэтая жывая бурная рэчка ва ўсёй паўнаце яе глыбінных і паверхневых плыняў. У "Лексісе" багаслоўска-філасофская лексіка з яе строгім лагічным складам змяняецца моўнымі звесткамі аб гісторыі і дзяржаве, лексіка мастацтва суседнічае са звесткамі пра жывёл і сельскагаспадарчымі тэрмінамі. У слоўніку не толькі пададзена агульнаўжывальная лексіка Сярэдневечча, у ім, як у люстэрку, адбіліся дасягненні і высокі гуманізм эпохі Адраджэння. Мы даведваемся, што людзі ўжо атрымліваюць медыцынскую дапамогу, ведаюць дакладныя назвы "на патрэбу рамяству і гандлю". Уражвае і высокі ўзровень лагічна-абстрактнага выказвання ў старабеларускай мове.

Перакладная частка "Лексіса" адлюстроўвае працэс станаўлення беларускай мовы, што бярэ свой пачатак з часу ўтварэння беларускай народнасці. Слоўнік дае ў рукі даследнікаў багаты матэрыял для рэканструявання стану нашай мовы ў XVI стагоддзі, дазваляе адначасова правесці шырокія аналогіі з сучаснай беларускай літаратурнай мовай.

Паводле прынцыпаў падачы слоў некаторыя вучоныя схільны адносіць "Лексіс" да так званых адвольных, у якіх лексемы тлумачацца пераважна праз сінанімічны рад. В.Ул.Вінаградаў нават лічыў, што ў адвольніках "закладваліся асновы рускай літаратурнай сінанімікі".

***Ствараем энцыклапедыю "Новай зямлі"***

***Валянціна ВЫХОТА***

# Коласавы зернеткі

(Працяг.)

*Ось возьмем стрэльбы, пойдзем жыва*
*Ды хоць **усмак** папастраляем*
*Усіх глушцоў паразганяем.*

**Усмак** разм. всласть (БРС); всласть zur Genüge; zur vollsten Befriedigung, мы поели всласть wir aßen uns nach Herzenlust satt (РНС), Herzenslust f отрада, утеха nach Herzenslust вволю, всласть, сколько душе угодно (GDRW) Herzenslust, die (meist in der Wendung) umg. etw. nach Herzenslust tun so handeln, wie es einem Spaß macht, gefällt (WDG). Як бачым, словы з коранем schmack для перадачы значэння слова **ўсмак** не ўжываюцца.

*Міхал паноў кляне і лае;*
*А ён загад з кватэры мае*
*Сюды, ў будан, каб **смачна** спалі*
*І гора бы паны не зналі,*
*Завезці стол, услон, саломы.*

**Смачны**. 2. Які прыносіць задавальненне; прыемны (пра сон) — ТСБМ; nach Herzenslust schlafen (WDG).

*Як смачны сон змыкае вочы*
*Тут маці трошкі пасцяла*
*І галавою паківала:*
*— Шкада будзіць — ох, **сон салодкі**!*
*Няхай паспяць яшчэ блазноткі.*

Якуб Колас ужывае два выразы *смачны сон* і *сон салодкі*, дзе *смачны* і *салодкі* з'яўляюцца блізказначнымі словамі. У нямецкай мове толькі: сладкий 2. перен. (приятный) сладкий сон süßer Schlaf (РНС).

**Салодкі** 5. перан., які прыносіць задавальненне. Салодкі сон. (ТСБМ).

*Памчымся мы на ніз крыніцы,*
*Аж толькі вецер засвідрує! —*
*Язду ўжо дзядзька тут **смакуе**.*

**Смакаваць**. 3. перан. Успрымаць, пераживаць што-н., адчуваючы асаблівае задавальненне; цешыцца з чаго-н., радавацца чаму-н. (ТСБМ).

**Смаковать** 2. перен. genießen (РНС); genießen 2. наслаждаться (чем-л.).(GDRW).

*Паноў парадуй шчупакамі:*
*Галодны, можа, небаракі,*
*Або абрыдлі ім **прысмакі** —*
*Вяндліны, мяса і катлеты.*

**Прысмакі**. 1. (изысканные кушанья), лакомства; сласти; разносолы (БРС); лакомство Naschwerk n, Leckerbissen m (РНС). Naschwerk, das Süßigkeiten (WDG); Leckerbissen, der etw. besonders Gutes zu essen (WDG). **Прысмакі**. 1. Ласункі; салодкае (ТСБМ) адпавядае нам. Naschwerk, das. **Прысмакі**//Смачныя, асабліва прыгатаваныя стравы (ТСБМ), што маем і ў наступным урыўку, адпаведнае нам. Leckerbissen, der.

*Хоць невялікія **прысмакі** —*
*Цыбуля, перчык, ліст бабкоў*
*Ды сальца некалькі брускоў*
*Мука і квас — і ўся прыправа.*
*Але ўсё ж снеданне цікава.*

**Прысмакі**. 2. разм. Прыправа (ТСБМ); приправа Zutat f, Würze f (РНС):, Zutat, die 1. Bestandteil, der für etwas notwendig oder wünschenswert ist: die Soße wurde aus besten Zutaten bereitet (WDG); Bananen-Milch (Frischfrucht) Zutaten: 1 Banane, 1/8 l bis 1/4 Milch, nach Wunsch. (Udo Henseler. Dr. Bernhard Weichsel. Wir mixen!) Zutat f 1.примесь; 2. приправа (GDRW); Würze, die, 1. Stoff, der angenehmen Geschmack, Geruch verleiht а) in Speisen, Getränken, Gewürz; die Soße hat zuviel Würze; Pfefer als Würze verwenden (WDG).

Зыходзячы з кантэксту ўрыўка і слоўнікавых дадзеных, а таксама кнігі названых вышэй нямецкіх аўтараў, можна меркаваць, што верашчака гатавалася з розных кампанентаў: сала, мукі, квасу, цыбулі, перчыку і лаўровага ліста. Усё гэта складае кампаненты гэтай стравы і — адпавядае ням. Zutat, die. Але цыбуля, перчык, ліст бабкоў — гэта ўжо прысмакі-прыправы, што адпаведнае ням. Würze, die.

Варта згадаць яшчэ і такія радкі:
*Але дзе поле адзічала,*
*То й там,васпане, **смаку** мала —*
*Зрабі зямлю з такой аблогі!*
*Праз год не станеш тут на ногі.*

У сэнс слова "смак" аўтар, відавочна, уклаў сэнс "карысць". **прок** разг. карысць; будет прок — будзе карысць (РБС); прок разг. (польза) из этого не будет проку daraus wird nichts Gescheites (РНС).

Гісторыя слова: Газета "Наша слова" (№ 13 (225), 1995 г.).

*У старых фаліянтах*

# Славутага графа знакаміты калега

Міхал Казімір Агінскі, стваральнік вядомага канала, які злучыў Балтыйскае і Чорнае моры праз рачныя сістэмы Нёмана і Дняпра, вялікі гетман ВКЛ і мецэнат мастацтва, як вядома, ператварыў невялікі гарадок Слонім у буйны тэатральны цэнтр Еўропы. Усе параўнанні з славутым нямецкім асяродкам музыкі і тэатральнага мастацтва, што знаходзіўся ў Мангейме, выпадаюць на карысць слонімскім Афінам. Усё гэта сведчыць пра незвычайныя арганізатарскія здольнасці славутага графа і ягоны вышуканы густ. Да таго ж, сёння ўжо ёсць падставы гаварыць пра кампазітарскі талент Міхала Казіміра Агінскага.

Але ён быў не меншым мегаламанам — меў пра сваю асобу надта вялікае ўяўленне. Аднойчы граф увайшоў у кабінет караля Станіслава Аўгуста і ў роспачы сказаў:

— Ваша светласць, памёр мой калега.

Кароль падумаў, што гэты свет пакінуў палявы гетман ВКЛ Сасноўскі.

— Прабачце, літасцівы пане, але я гавару пра Жана Жака Русо,— спакойна запярэчыў Агінскі.

Калі кароль са здзіўленнем глянуў на графа, той адказаў:

— Вашай вялікасці, пэўна ж, вядома, што Жан Жак напісаў словы і музыку да оперы "Вясковы чараўнік". І я складаю музыку і лібрэта да операў, што ставяцца ў маім тэатры. А таму Русо — мой калега.

Міхал Казімір Агінскі, калі ў 1754 годзе прыехаў да берагоў Сены, хутка стаў асобай вельмі вядомай і бывальцам парыжскіх салонаў. Ён уражваў французаў не толькі дасканалымі манерамі, але і ўменнем граць на розных інструментах: жартавалі, што слонімскі граф мог бы замяніць цэлы аркестр. Вельмі палюбіў яго знакаміты філасоф, пісьменнік, тэарэтык мастацтва, заснавальнік і рэдактар "Энцыклапедыі..." Дэні Дзідро. За ягонай намовай Агінскі напісаў артыкул пра арфу — гэты музычны інструмент граф намерыўся ўдасканаліць. Варта дадаць, што згаданы артыкул ды імя аўтара стала ў парыжскіх музычных салонах сенсацыяй яшчэ і з такой нагоды: звычайна пра музыку пісаў у энцыклапедыі Жан Жак Русо.

Дакладна невядома, ці сутыкаўся наш зямляк з славутым французам — калегам. Бо менавіта ў той год Жан Жак Русо пакінуў Парыж, спыняючы ўсе кантакты з суайчыннікамі-інтэлектуаламі.

**Вычытаў З.С.**

# Родам з Прушынскіх

Жыве ў Баранавічах на ціхай вуліцы Кабушкіна ў сваім дамку разам з мужам і сям'ёй малодшага сына Браніслава Міхайлаўна Лапкоўская. Працавала, гадавала чатырох сыноў і дачку, пайшла на пенсію і ўсе гэтыя часы, як даведаліся, яна жыла ў добрым суладдзі з паэзіяй. Яе вершы друкавала мясцовая газета "Наш край", берасцейская "Заря", "Беларуская лясная газета" ды інш.

Доўгі час Браніслава Міхайлаўна не ведала, што яна суродзічка Алеся Гаруна. Гэта адкрыццё адбылося зусім выпадкова. А зрабіў гэта зборнік "Шляхам гадоў" (Менск, "Мастацкая літаратура", 1990 г.), які надрукаваў восць гэтыя радкі: *"А вось "посемейный список деревни Подстаринье Дорогобыльского сельского общества Столовичской волости Новогрудского уезда Минской губернии". Тут пад № 164 запісаны Прушынскі Каятан Восіпавіч з жонкай Юзэфай, іх сыны Восіп і Уладзімір з жонкамі Марыяй і Соф'яй, дзеці Восіпа і Марыі і дзеці Уладзіміра і Соф'і — Аляксандр, Антон і Юзэфа. Копія заверана 14 мая 1907 года (арк. 151-152). І далей ва ўсіх дакументах Прушынскі называецца селянінам вёскі Падстарынне. Цяпер гэта вёска Пастарынне Баранавіцкага раёна Брэсцкай вобласці. Менавіта тут карані Алеся Гаруна".*

Як аказалася, сама Браніслава Міхайлаўна родам з Прушынскіх, яе дзявочае прозвішча Прушынская, і яна нарадзілася ў гэтым жа самым Падстарынні-Пастарынні.

Так сталася, што дзве сусветныя вайны сцерлі памяць пра Алеся Гаруна, і ў вёсцы ніхто не помніў пра яго, а ў мясцовай школе не было нават партрэта класіка беларускай літаратуры...

Звычайна да славы вялікіх продкаў хто толькі не прымазваецца. Але Браніслава Міхайлаўна — сціплы чалавек. Толькі пасля стараннай праверкі, узнаўлення генеалагічнага дрэва пацвердзілася, што яна суродзічка Алеся Гаруна. Больш таго, яна нарадзілася ў тым самым дамку, пра які пісаў класік:

*Там, дзе сумна з краю бора*
*У тры ваконцы свеціцьхатка,*
*І з лясной травой гавора*
*Буракоў і бульбы градка;*
*Дзе жаўцеюць тры загоны,*
*А на кожным па дубочку.*
*Ціха шэпча бор зялёны*
*І глядзіцца ў ручаёчку.*

Ёсць у Баранавічах арганізацыя БСДМ "Маладая грамада" і суполка ТБМ імя Ф.Скарыны. Дык вось яны зрабілі спецыяльны сумесны выпуск лістоўкі, прысвечанай слаўнай нашчадцы класіка. Лістоўка пачынаецца словамі: "Жыве ў горадзе нашчадак Алеся Гаруна — паэтка Браніслава Лапкоўская (Прушынская)". Далей прыводзяцца яе біяграфічныя звесткі. У лістоўцы на абедзвюх старонках надрукаваны дванаццаць вершаў паэткі і радкі Алеся Гаруна:

*Ты, мой брат,*
*Каго зваць беларусам,*
*Роднай мовы сваёй*
*Не цурайся,*
*Як не зрокся яе*
*Пад прымусам,*
*Так і вольным цяпер*
*Не зракайся.*

Рэдактарам гэтага выдання з'яўляецца Уладзімір Зуеў.

З вершаў Браніславы Міхайлаўны Лапкоўскай згадаем такія, як "Спадчына", "Мова", "Зямліца святая мая", "Мама сустракае раніцу", "Мой горад спіць", "Арабіна". Хочацца прывесці радкі з "Арабіны", каб даць адчуць сувязь верша з творчасцю Алеся Гаруна:

*Каля хаткі, сэрцу мілай,*
*Пахінулася рабіна,*
*Вецер выў у комін-вуха,*
*Ціха-ціха яе слухаў.*
*На галінках той рабіны*
*Ліўся голас салаўіны.*
*І спявалі птахіхорам,*
*Потым усе ляцелі ўгору...*

У сувязі з гэтым вершам мне згадваецца і такі выпадак: шмат хто з вучняў Баранавіцкай школы № 17 перапісвалі гэты твор і раздавалі жыхарам горада. А заахвоціла дзятву да гэтай добрай справы цудоўная настаўніца Аляксандра Іванаўна Майсейчык.

Дадам яшчэ, што Браніславу Міхайлаўну Лапкоўскую (Прушынскую) часта запрашаюць у школы горада і раёна, бібліятэкі, клубы, на прадпрыемствы. Яна была жаданым госцем і ўдзельніцай незабыўнага тэатральнага свята, прысвечанага Уладзіславу Галубку.

Што ж, добрую справу зрабіла "Маладая грамада" і сябры ТБМ: рупнасць Браніславы Лапкоўскай — добры прыклад маладым дзеля служэння сваёй Бацькаўшчыне.

**Міхась МАЛІНОЎСКІ,**
**правадзейны член**
**Геаграфічнага таварыства.**
г. Баранавічы.

*Творчасць нашых чытачоў*

*Марыя Баравік*

## МАЎЛЕННЯ МУЗЫКА ЗЯМНАЯ

У нашай мове словы — карагодам:
заранка, зорка, знічка, цішыня...
Адушаўляецца іх гукамі прырода,
Іх фарбамі праменіць дабрыня.

Жыве маўлення музыка зямная.
І ў светлы сон, і ў родны дом вяртае,
Дабраслаўленне шле ад мацярок,
калі мы робім апантаны крок.

Жыве маўлення музыка зямная.
Пачніся родных гукаў пасяўная!
На светлай ноце Музу папрашу,
Каб скалыхнула кожную душу

на подых узаемнасці і згоды,
суладдзе думак, гукаў і турбот.
Я слова-зернетка кідаю з асалодай
у глебу годнасці...
Адчуй яе, народ!

* * *

Такое кволае, пакутлівае я
Тваё,
Радзіма-яблынька мая.
Ледзь-ледзь злавілі вусны веснавей.
Дай табе Божа светлага агню,
Каб акрыляў твой кожны салавей —
Адчуў спакой,
Палёт
І вышыню.

## РОДНАЕ

Там, дзе жылі-цвілі
з колерамі зямлі
простыя мае продкі,
мне і палын салодкі.

Там, дзе жылі-цвілі
з колерамі зямлі
родныя бацька, маці,
смутак святла не страціў.

Выпала мне на ранне
шчодрасць замілавання...
Мама ці Бог любові —
У беларускім слове;

У беларускім полі
ходзіць душа на волі.
Лёгкія кіламетры
У беларускім ветры.

У беларускай цішы
Колас жыццё калыша.

## АГОНЬ

Ёсць агонь любові і тугі,
той, які не гасне, не праходзіць,
а гарыць у самым дарагім
ува мне ды і ў маім народзе.
Надзялі ім, Бог, людзей і час —
без яго не высветлімся сёння.
Хай жа ён хутчэй разбудзіць нас,
каб не пазяхалі мы спрасоння,
каб ясней убачылі сябе.
Дай нам, Бог, Святога азарэння!
Чую, дрэва роднасці, цябе,
адчуваю боль твайго карэння.

## МАЯ МУЗА

Стаіць самотна Муза ля бярозкі,
дзе знікла сцежка і не стала вёскі.
Трымае Муза зернетка любові
Да мілых фарбаў роднасці, у слове.

## УВАСАБЛЯЕЦЦА ДУША

Да Перадол бяжыць шаша.
Увасабляецца душа
у птушцы цёплай вышыні,
у кветцы роднай цішыні,
дзе вечны подых ветравы
шукае водар лугавы.
Увасабляецца душа
у рэху памяці спярша,
дзе сняцца кнігаўцы лугі,
у гуках тых, найдарагіх —
у музыцы пяшчотных слоў,
дзе ты збылася як любоў.
І скалыхнешся ты ўва мне
на той зямлі, у той вясне,
куды я ў сне іду дамоў,
дзе я збылася як любоў.

## НАДЗЕЯ

Кніга — госць спрадвеку ганаровы —
мы з табой сустрэнемся нанова.
Там, дзе вецер свежы і здаровы
устрывожыць хвалю роднай мовы.
Там, дзе сэрцу мілыя паэты
рух пачнуць свой светлы ад высновы:
толькі ў думках, роднасцю сагрэтых,
спее колас песеннага слова.

м. Падсвілле.

# І смех і грэх

## *Пачутае "У Лявона"*

**Бяспечны занятак**

Да следчага, які забег у шынок на кухаль піва, звяртаецца бывалец:

— Кажуць, што цяпер становіцца больш побытавых злачынстваў. Парайце, калі ласка, шаноўны, які з хатніх заняткаў жанатага мужчыны найбольш бяспечны?

— Мыццё посуду.

— ?!

— Крыміналісты не ведаюць ніводнага выпадку, каб жонка біла мужа, занятага гэтай карыснай справай, не кажучы ўжо пра забойства.

**Аптыміст і песіміст**

— Чаму ты ўцёк ад таго століка, дзе сядзіць наш знакаміты аптыміст?

— Варта пасядзець з ім некалькі вечароў і чалавек можа стаць песімістам на ўсё жыццё.

**Даследніца**

— Глядзіце, хто завітаў да нас! — радуюцца бывалец шынка, калі ўбачыў сябра, які пасля жаніцьбы перастаў быў хадзіць у шынок.

— Я разводжуся! — адказвае той.

— Чаму? Ты ж так ганарыўся сваёй жонкай — яна ж навуковец.

— Не магу больш трываць! Нават ноччу будзіць дзеля доследаў.

**Дыялог**

— Чаму не пазвоніш?

— Пальцы баляць.

— Ты ж купіў тэлефон з гузічкамі...

— Дык жа прымусіла жонка прышываць.

**Здаровы**

— Ты прыйшоў? — дзівіцца аматар піва, бачачы сябра.— Жонка твая казала, што ты занядужаў.

— Гэта дома я хворы, а тут — здаровы!

**Прычына**

— Ці прыйдзеш сёння да мяне?

— Сёння я ніяк да сябе не прыйду!

**Крэпасць і вязень**

— Мужчына і на волі не заўсёды свабодны...

— Ты маеш на ўвазе прывязанасць да жанчын?

— Прывязанасць? Жанчына — гэта крэпасць, а мужчына — яе вязень!

**Учуў З.С.**

## *Пароды*

*Вінцук АСЬЦЮК*

## ВІДАЦЬ, БЫЦЬ БЯДЗЕ

*Палымяныя ружы думак*
*расцвітаюць у галаве.*
*Птушкі ведаюць накірунак,*
*думкі ж — не.*
**Максім Капыловіч.**

Расцвітаюць ружы думак
Сёння з ранку ў галаве.
У абед — вярглні з сумам
Зашумеліся ўва мне.

А пад вечар птушкі з крыкам
Вылецелі ў свет праз рот,
(Быць, відаць, бядзе вялікай)
Аж зваліўся з печы кот.

Пруць на волю кветкі думак.
Як жа ноч пражыць тут мне?
Птушкі зналі накірунак,
Думкі ж — не.

Заснавальнік: ТБМ імя Ф.Скарыны.
АДРАС РЭДАКЦЫІ: 220029, г.Менск, вул.Чычэрына, 1. Тэлефон: 233-17-83.

РЭДАКЦЫЙНАЯ КАЛЕГІЯ:
Эрнэст Ялугін — галоўны рэдактар, Лявон Баршчэўскі, Янка Брыль, Анатоль Бутэвіч, Радзім Гарэцкі, Ніл Гілевіч, Вольга Кузьміч, Анатоль Клышка, Уладзімір Ламека, Уладзімір Панада, Зміцер Санько, Здзіслаў Сіцька — адказны сакратар, Яўген Цумараў, Генадзь Цыхун.

Аўтары надрукаваных матэрыялаў адказваюць за дакладнасць фактаў і іншых звестак. Пункт гледжання аўтара можа не адпавядаць меркаванню рэдакцыі. Рукапісаў рэдакцыя не рэцэнзуе і назад не вяртае.
Індэкс 63865. Замова 823

Друкарня выдавецтва "Беларускі Дом друку". 220041, г.Менск, пр. Ф.Скарыны, 79.
М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
П 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
Наклад 2625 паасобнікаў
Падпісана ў друк 31.07.1996 г. у 15 гадзін.